PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (1891) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 9 ЖНІЎНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*Запачаткаваў фэстын вакальна–інструментальны калектыў „Рэзананс" з Гародні. Аб беларускіх фэстынах у Гайнаўцы і Бельску чытайце на стар. 6 і 7.*

## БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ

Аб падзеях II сусветнай вайны на Беластоцкай зямлі ў беларускіх часопісах пісалася раней нямала і найчасцей быў гэта вобраз, маляваны ўдзельнікамі і супрацоўнікамі савецкага падполля. Зрэшты, не толькі беларуская навука, мастацтва ці журналісты паказваюць II сусветную вайну як змаганне ўсяго народа са зверскім акупантам. Хопіць пачытаць польскую літаратуру ці пагледзець французскія кінафільмы на гэтую тэму. З аднаго боку выступаюць у іх адны героі, людзі высакародныя і патрыёты, а з другога — скамянелыя морды, брутальныя і цынічныя швабы, у якіх страляць было не толькі абавязкам, але і прыемнасцю. Паказваліся часам і свае нейкія дэгенераты, здраднікі, але гэтае маральнае балота выступала як адзінкі, затаптаныя маршам справядлівых. І толькі ў канцы 80-тых гадоў паказалася „Białoruś pod okupacją niemiecką" Ю. Туронка, разбураючы чорна-белы вобраз нямецкай акупацыі на Беларусі. Таксама і сярод польскіх гісторыкаў паказаліся працы, якія зусім інакш прадстаўляюць грамадства ў нямецкай няволі. Кніжка Юзэфа Братко пра „Гестапа" ў Кракаве паказвае, як лёгка нямецкай палітычнай паліцыі было знаходзіць супрацоўнікаў ва ўсіх асяроддзях гэтага народа, не выключаючы інтэлектуальных элітаў і палітыкаў у канспірацыі. Уладзімеж Барадзей у кніжцы „Тэрор і палітыка" даказвае, што кожны, хто дзейнічаў у польскай канспірацыі, быў амаль ад пачатку „распрацаваны" паліцэйскім апаратам, дзякуючы рэгулярным інфармацыям сяброў, суседзяў, знаёмых і сваякоў канспіратараў. Апошнім часам і французы адважыліся сказаць, што нямецкая прысутнасць у Парыжы не надта ім перашкаджала. Ніхто іншы як французскія паліцыянты і ўраднікі разам з тайнай нямецкай паліцыяй лавілі яўрэяў — грамадзян Францыі і сотнямі тысяч адпраўлялі ў канцлагеры на тэрыторыі Польшчы. З усходняга фронту ў Парыж ехалі нямецкія афіцэры, дзе чакалі іх французскія прыгажуні, гатовыя служыць ім дзень і ноч, а акцёры і спевакі выступалі перад гэтай публікай з усім майстэрствам.

Пішу тут пра народы, якія мелі свае дзяржавы, сімвалы, урады, арміі, і якім немцы ўсё гэта забралі. Сапраўды палова Еўропы мела за што змагацца з акупантам. Але галандцы, французы, нарвегі ці чэхі ў сваёй большасці не думалі пра змаганне. Дык за якую справу змагаліся беларусы, чаму ганарыліся, што ў гэтай вайне загінула чацвёртая частка народа? Ці да Курапатаў і дзесяткаў іншых падобных магілаў трэба было дабавіць сотні тысяч новых ахвяр, гэтым разам за „советскую родину"? Ці быў нейкі сэнс страляць да сябе з абодвух бакоў фронту на Монтэ Касіно, на Чэшскай зямлі, ці над Балтыйскім морам? Тых, якія змагаліся ў нямецкіх мундзірах з беларускімі сімваламі, назвалі потым калабарантамі і здраднікамі, тых у савецкіх ці польскіх — героямі і ветэранамі.

Як даказаў Ю. Туронак („Кантакт" н-р 1) большасці тых беларусаў, якіх палічылі прапаўшымі ў час II сусветнай вайны, не было ў жывых ужо перад чэрвенем 1941 года. Гэта значыць, што большасць сталінскіх ахвяраў упісалі на рахунак немцаў. Не хачу бараніць гэтых астатніх, аднак не магу зразумець, чаму адны, якія служылі злачыннаму акупанту, з'яўляюцца здраднікамі, а другія, якія служылі таксама амаральным акупантам, называюцца героямі.

Кашмар II сусветнай вайны на Беларусі быў тым большы, што спабornічалі тут супярэчныя інтарэсы немцаў, саветаў, палякаў і беларусаў. За дзейнасць магутнага савецкага падполля прыходзілася плаціць перад усім беларускім сялянам. За забітага немца акупанты не шукалі помсты на партызанах, а найчасцей пры дапамозе ўкраінскіх эсэсаўцаў, літоўскіх паліцыянтаў, ці мадзярскіх жаўнераў

Працяг на стар. 6

## ЗНОЎ ПАКРАЖА

Козлікі (над ракой Нарвай) - з пункту гледжання турыста, прыгожа распаложаная вёсачка. Сам, памятаю, не мала туды папаездзіў вудзіць рыбу. За вёскай, на стромкім беразе Нарвы, крыху ў лясочку, стаіць драўляная цэркаўка.

Службы ў ёй, як сказаў мне настаяцель кленіцкага прыходу (бо да гэтага прыходу належыць козліцкая царква) праводзяцца раз у месяц. Часцей служыць там - няма каму. Гэта ўжо не тое, што раней - няма ў вёсцы моладзі. Ёсць затое царква, а ў ёй - ці мала было помнікаў старадаўняй праваслаўнай культуры. Кажу было, бо невядомыя злачынцы ўзламаліся туды ноччу з 22 на 23 ліпеня ды забралі дванаццаць ікон ды некаторыя літургічныя прадметы.

Самыя каштоўныя іконы, адзначыў настаяцель Аляксандр Высоцкі, гэта дзве ў стылі барока: «Уваскрасенне Хрыстова» і «Уезд у Ерусалім». Гэтае начы, цягнуў А. Высоцкі, я нават заўважыў, як праз Кленікі праязджаў малюх на сувальскіх нумарах. Падумалася мне запісаць іх і паведаміць гайнаўскую паліцыю, каб прыехалі і разгледзеліся каля цэркваў (у прыходзе іх тры). Але паколькі ў прыходзе мелі месца ўжо дзве пакражы, мой непакой і так, пэўна, ім абрыд...

Першую пакражу заўважыла моладзь, якая пасвілася паўз Нарвы пад палаткамі. Паведаміла аб гэтым у вёску. Дзверы ў царкву - падвойныя, салідныя, кавальскай работы замок; другія дзверы (унутраныя) таксама салідныя - вырвалі іх разам са шрубамі. Скрадзеныя прадметы зладзеі выносілі з царквы метраў 150, дзе стаяла іхняя машына, - ёсць такая дарога на Ляхі, там ляжалі рамы, з якіх зладзеі павырэзвалі іконы.

Паліцыя мяркуе, што ў козліцкую царкву ўзламаліся іншыя людзі, чым раней у каплічку на кленіцкіх могілках і ў царкву ў Тыневічах.

Паводле А. Высоцкага ва ўсіх гэтых пакражах нешта дзіўнае - часта знікаюць прадметы, калекцыянерская вартасць якіх нулявая.

Ці дзейнічаюць тут з думкай пра знішчэнне помнікаў старой праваслаўнай культуры?

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**




# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**Частка V**

Перавага сённяшняй эпохі над мінулай заключаецца ў тым, што з чалавечых душ зняты многія са старых абмежаванняў , дадзена свабода чалавечым помыслам і ініцыятывам. І хаця гэта парадаксальна, але якраз з гэтай прычыны людзям цяжка. Цяжка таму, што на працягу дзесяткаў гадоў за мільёны людзей думалі важакі краіны або партыі. Сёння ніхто за нікога не думае, кожны здадзены на ўласныя сілы. Можна сказаць, што пачаў дзейнічаць прынцып: жыві як хочаш, або, можа лепш сказаць: жыві як умееш. І трэба сказаць, што многія не ўмеюць. У іх душах, мабыць, на працягу многіх гадоў будуць адроджвацца самастойныя і самаініцыятыўныя інстынкты. Зусім магчыма, што асабліва ў людзей старэйшых яны, мабыць, ніколі ўжо поўнасцю не адродзяцца.

Перавага грамадстваў, існуючых у заходнееўрапейскіх капіталізмах, над грамадствам з краін народнай дэмакратыі перш за ўсё, мабыць, заключаецца ў тым, што заходнія грамадствы як цэласць, а таксама іх паасобныя члены валодаюць на многа большай, чым мы, ступенню самастойнасці і ініцыятыўнасці. Чалавек адтуль не спадзяецца, не чакае, не спасылаецца, а дзейнічае самастойна. Дзякуючы гэтаму выпрацаваўся ў чалавеку захаду самазахаваўчы інстынкт, дынаміка, воля высокай ступені адказнасці і што, мабыць, найважнейшае, працавітасці, самадысцыпліны і самаадказнасці. Мы наогул — сказанае адносіцца і да мяне — гэтых уласцівасцей у сваіх характарах не маем. У нашым духоўным падтэксце існуе пераканананне, што неяк яно будзе, што сістэма не дасць нам згінуць, што нехта зверху вырашыць усе нашы праблемы. Вось такая пасіўнасць характарызавала большасць сацыялістычнага грамадства. Большасць, а не ўсіх. Многія людзі ў мінулую эпоху патрапілі збудаваць дамы не горшыя, чым тыя, якія маюць беларусы ў Амерыцы.

Нядаўна я быў у Гайнаўцы і наведаў дзеяча БГКТ. Збудаваў ён цудоўны дом. Вакол гэтага дома стварыў сапраўдны аазіс зелені, прыгожых дрэўцаў, раслін і сцежак, якія цешаць вока і даюць адпачынак целу і душы. Я добра ведаю, што гэты чалавек усё прадумаў уласнай галавой і амаль усё выканаў уласнымі рукамі. Ці ж можам яго назваць пасіўнай істотай, з якой сацыялізм выбіў уласную ініцыятыўнасць? Думаю, што рабіць гэтага нельга. А ці ж гэты мой знаёмы выключэнне? Такіх людзей ва ўсходняй Беласточчыне дзесяткі, дзесяткі тысяч. Гляджу на іх „тварэнні" з пачуццём светлай зайздрасці. Гляджу і параўноўваю са сваёй вельмі цеснай варшаўскай кватэрай і вельмі падупалай беднай бандарскай хатай. Не звальваю віны ні на грамадскую сістэму, ні на іншых людзей. Яны ж дзейнічалі ў сацыялізме пакапіталістычнаму і хвала ім за гэта. Хай карыстаюцца пладамі сваёй прыгожай актыўнасці.

Сацыялізм прайграў спаборніцтва з капіталізмам. Сталася зусім па-другому, чым прадбачвалі класікі сацыялістычнага вучэння. Паводле іх, капіталізм меў згніваць да той пары, калі перастане існаваць на зямлі ўвогуле. Сталася інакш: на нашых вачах сацыялізм, які меў усё буйней расцвітаць, завяў і памёр. Найбольш дзіўнае тое, што не знайшоў ён абаронцаў ані з боку марксісцкіх партыяў, ані з боку арміяў, ані з боку шырокіх мас, на якія так часта спасылаўся. І таму ўсе скаргі і жалі з боку тых, хто хваліць сёння мінулае, незалежна ад таго, колькі ў гэтых жалях і скаргах рацыі і праўды, — бяссільныя. Свет перамяніўся і беларусы ўсходняй Беласточчыны мусяць старацца дастасавацца да новай рэчаіснасці і выцягнуць з яе максімальную карысць для сябе. Сказанае адносіцца перад усім да маладых, якім давядзецца жыць поўнасцю пры капіталізме.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




**Прадстаўнікі Беларусі і Расеі** падпісалі ў Маскве 21 дакумент аб палітычным, гаспадарчым і вайсковым супрацоўніцтве. Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч назваў гэты факт «першым малым крокам у напрамку канфедэрацыі». «Нашае супрацоўніцтва павінна быць узорам для іншых дзяржаў садружнасці», - пракаменціраваў шэф расейскага ўрада Ягор Гайдар.

**Літоўскі парламент** прыняў рашэнне аб правядзенні самаўрадавых выбараў у Віленскім і Салечніцкім раёнах, населеных палякамі. Адбудуцца яны 22 лістапада г.г. Самаўрады былі распушчаны пасля мінулагодняга жнівеньскага путчу ў Маскве. Тады была таксама створана камісія па справах вывучэння «нязгодная з канстытуцыяй дзейнасці дэпутатаў», а пракуратура аспрэчыла некалькі пунктаў статута Саюза палякаў у Літве.

**Новым камандзірам** Паўночнай групы расейскіх войскаў у Польшчы назначаны ген. **Леанід Кавалёў.** Яго папярэднік ген. **Віктар Дубынін** з'яўляецца цяпер віцэ-міністрам абароны Расеі.

**У Канадзе адбылася канферэнцыя эскімосаў,** у якой прымалі ўдзел дэлегаты з Чукоткі. Грамадзяне былога Савецкага Саюза прасілі дапамагчы супрацьставіцца знішчэнню гэтай этнічнай групы /каля 1700 чалавек/ у Расеі.

**Мікола Іваноў** з Вроцлава атрымаў другую ўзнагароду тыднёвіка „Палітыка" за кніжку „Першы пакараны народ. Палякі ў Савецкім Саюзе 1921-1939". „Мікола Іваноў, - піша **Мар'ян Турскі** ў „Палітыцы", - увайшоў на даследчыцкі абшар, які да гэтай пары быў невядомы польскім гісторыкам, а тым больш быў недаступны. Узняў ён тэму, якая дзесяцігоддзямі замоўчвалася. Паказаў, як захоўвалася польскасць сярод гэтых крэсавякаў. Дадайма, што таксама пасля іх перасялення ў Сібір і Казахстан, чаго, - скажам адкрыта - многія з нас, пражываючых над Віслай, доўгі час не ўсведамлялі. Аўтара, які неадноўчы друкаваўся і на нашых старонках, сардэчна віншуем!

**Ужо каля 200 будучых фермераў з Беларусі** ўдзельнічала ў курсах у Беластоцкім ваяводстве. Трываюць яны 5-6 дзён і за гэты час кандыдаты на фермераў, апрача здабывання тэарэтычных ведаў, маюць магчымасць прыглядзецца функцыянаванню сямейнай гаспадаркі на нашых вёсках. Курсы арганізуе беластоцкі Асяродак сельскагаспадарчых парадаў у супрацоўніцтве з Беларускім рэспубліканскім адукацыйным цэнтрам.

**Моўная камісія** пры Савеце міністраў Літвы загадала сродкам масавай інфармацыі польскай нацыянальнай меншасці прымяняць літоўскія геаграфічныя назвы - **Вільнюс, Шальчынінкай,** а не Вільня і Салечнікі. У выдадзенай заяве Камісія папярэджвае, што тыя сродкі інфармацыі, якія далей будуць паслугоўвацца польскімі назвамі, могуць быць прыцягнуты да адказнасці.

**Улады прыгранічных гарадоў Тарэспаль і Брэст** дамовіліся наконт таго, каб мост на рацэ Буг, які спалучае гэтыя гарады, аб'явіць «мостам міру» пад апекай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Раённая пракуратура ў Гайнаўцы** затрымала грамадзяніна Літвы, які ў легкавой машыне прывёз 350 літраў спірту. Спірт, куплены ў Пецярбурзе, праз Вільню і Сэйны трапіў на нашу тэрыторыю. Пракуратура мяркуе, што наткнулася на след польскалітоўскай кантрабандысцкай групы.

**У Беластоку можна купіць кошарную гарэлку,** якую прадукуе мясцовы «Польмас». За ходам яе прадукцыі назірае **Іозэф Гліксберг** з Ізраіля.

# ТЕЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### САМ НЕ ГАМ

Нічым скончылася сутычка прадстаўнікоў «Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць» з амерыканскім баптыстам Полам Морам. Верныя ленінцы прымусілі-такі Міністэрства культуры Беларусі скасаваць пагадненне паміж Нацыянальным Музеем рэспублікі і кіраўніком амерыканскай дабрачыннай кампаніі аб часовым карыстанні адным з пакояў Дома-музея І з'езда РСДРП. І ўсё ж заўладаць будынкам неакамуністам не ўдалося.

### УІК-ЭНД У ВАРШАВЕ

27 ліпеня зроблены яшчэ адзін крок да збліжэння сталіц Польшчы і Беларусі - упершыню адкрыта прамая аўтобусная сувязь. Кошт білета - 1500 рублёў і адзін долар ЗША. Дарэчы, карыстацца аўтобусам можна не толькі ў выхадныя дні – выезд па маршруце Мінск-Брэст-Варшава па панядзелках, серадах, пятніцах і нядзелях з аўтавакзала «Усходні».

### «В'ЕТНАМЦЫ» - «АФГАНЦАМ»

На грошы амерыканскіх ветэранаў в'етнамскай вайны, якія прапанавалі дапамогу «афганцам» Менска ў стварэнні рэабілітацыйнага цэнтра, арандавана пакуль памяшканне на тэрыторыі ваеннага гарадка «Уручча». А ў верасні, калі будуць атрыманы неабходныя апаратура і абсталяванне, плануецца адкрыццё РП.

### ТЫ З «УСХОДНЯЙ», Я З «ЗАХОДНЯЙ»

Беларускі ўрад выдзяліў звыш 81 мільёна рублёў на пабудову 20 мытных аб'ектаў на мяжы з Літвой і Латвіяй. Што ж датычыць мяжы з Расеяй і Украінай, то яна застаецца «празрачной».

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

### ПАТРЭБНА ДАПАМОГА

У верасні мінулага года была запланавана дзейнасць маладзёжнага гуртка сцэнічнай самадзейнасці пры ГП БГКТ у Беластоку, а затым правядзенне летам 1992 года тэатральнай вандроўкі па Беласточчыне „Жывога слова" з Менска і сцэнічнага калектыву з Беластока. З таго часу ў БГКТ, і не толькі, панавала калатнеча і таўкатня сярод дзеячоў. Нягледзячы на тое, ад кастрычніка да сёння група моладзі займаецца ў Беластоку жывым беларускім словам. Больш дзесяці асоб дзяўчат і хлопцаў сістэматычна сустракалася ў будынку ГП БГКТ на рэпетыцыях. І хоць амаль усе яны пачаткоўцы, здолелі за гэты час падрыхтаваць сцэнічную праграму на вандроўку. некаторыя з членаў калектыву ў красавіку г.г. паспяхова выступілі ў конкурсе сцэнічнага слова, арганізаваным ГП БГКТ.

Фактам ёсць, што гэта цяпер адзіны беларускі калектыў сцэнічнага слова на Беласточчыне. Ёсць ахвотныя маладыя надалей займацца тэатральнай самадзейнасцю. Хочуць яны правесці вандроўку на трасе: Гайнаўка-Тапіла-Войнаўка-Вярсток-Грабавец-Стары Корнін (гм. Дубічы Царкоўныя) разам са студэнцкім тэатрам „Жывое слова" з Менска. Падчас вандроўкі 24-30 жніўня г.г. у кожнай з гэтых мясцовасцей адбудуцца сцэнічныя выступленні. На жаль, гэтая ініцыятыва не мае належнай фінансавай падтрымкі з боку БГКТ і іншых беларускіх арганізацыяў. Так злажылася, што калектывам апякуюся я падчас водпуску для апекі над малым дзіцём, без ніякай фінансавай дапамогі. Нават даязджаць на заняткі з Рыбалаў у Беласток трэба за свой кошт. У такой сітуацыі правядзенне тэатральнай вандроўкі пад канец жніўня застаецца яшчэ не вырашаным. Справа ў тым, што без забеспячэння мінімуму патрэб, арганізаваць мерапрыемства немагчыма. Каб правесці такую вандроўку, патрэбна прынамсі шэсць мільёнаў злотых. У сувязі з тым звяртаюся да ўсіх, хто зможа і захоча дапамагчы нам фінансава, як найхутчэй скантактавацца з Янам Максімюком у рэдакцыі „Нівы".

Адначасова запрашаю ўсіх жадаючых на трасу нашай вандроўкі.

**Ян Мордань, (штатны працаўнік ГП БГКТ).**




* Жніўнай парою на вёсцы.
* Турыстычныя атракцыёны Белавежы.
* Аб паломніцтве ў Яблочына.
* Унашых суседзяў – украінцаў, немцаў.
* Весткі з Беларусі.

# ЧАЛАВЕК ІНШАГА ПАКАЛЕННЯ

Чытаць я пачаў дзесьці ў сярэдзіне 70-х гадоў - маецца на ўвазе, чытаць літаратуру. Пераважна гэта была папулярная ў той час перакладная еўрапейская проза, а таксама маскоўская паэзія... З беларусаў прачытаў і запомніў бадай адных Быкава з Караткевічам, а з паэтаў паважаў класікаў Коласа і Куляшова, - вядомы Купала здаваўся нейкім зачытаным, а «невядомы» быў у студэнцка-інжынерскім асяроддзі невядомым капітальна...

З той «роднай літаратуры», што апроч памянутага вышэй трапіла мне ў рукі, запомніў «Сэрца на далоні» Шамякіна ды карпюкоўскую «Дануту» - пры гэтым Карпюк быў нейкім больш натуральным і цікавым. Абедзве кніжкі, на мой тагачасны розум, нікуды нікога, дзякуй Богу, не клікалі - гэта была нармалёвая чытабельная белетрыстыка, а не манная каша, у мностве разляпаная сталічнымі белсавецлітаратарамі. Спадзяюся, што такое суседства ані Карпюка, ані Шамякіна не пакрыўдзіць - Карпюк зрабіў свой выбар, а Шамякін свой...

Калі з 1981 года я працаваў на гарадзенскіх заводах, час ад часу чуў ад кагосьці з калегаў, што ёсць вось такі пісьменнік Карпюк, - па-руску таксама казалі «пісьменнік», чым падкрэслівалася нейкае дзівацтва, - што вось ён дулю паказаў пры людзях аднаму чыну з КПСС, што ў суседкі 50 рублёў пазычыў, - «а ешё писменник!» - што заходзяць да яго ў белы дзень на працу, а ён пасярод кабінета стаіць на галаве, што зноў яго «чужы голас» пахваліў і клопаты пачаліся...

Карпюк быў часткай гарадскога пейзажу - гэтаксама, як наш знакаміты помнік-танк, страляючы проста па такой жа знакамітай папяроснай фабрыцы; як некалі ясная гімнастка-зорка Вольга Корбут; як піўзавод на беразе Нёмана, які штогод купаецца ў паводку, але піва варыць; як жоўты «лісін хвост» над трубамі «Азоту»; як стары-стары сіні вакзал, зламаны якраз напярэдадзень перабудовы... Ці шмат людзей пры жыцці былі часткай гарадскога пейзажу? Вось дзе пашана-слава, і тут ані кроплі іроніі. Хто не зразумеў - хай паспрабуе.

Блізка ўбачыў яго ўпершыню ажно летам 1989 года, калі тутэйшы БНФ мітынгаваў першы раз, а я быў вядучым мітынгу. Карпюк гаварыў ужо мінут пятнаццаць, а столькі ж яшчэ, як было па ім відаць, збіраўся гаварыць далей... - Аляксей Нічыпаравіч, - ціха сказаў я яму на вуха, - вы якнебудзь карацей... - А пайшоў ты..., - сказаў ён, не паварочваючыся, проста ў мікрафон. Публіка на стадыёне, тысячаў шэсць-сем, заржала, засвістала, запляскала ў далоні... Так у правінцыйнай Гародні пачалася дэмакратыя, няхай сабе й «мітынговая».

А пазнаёміліся мы пазней, а дакладна - 1 снежня 1989 года. Увосень Карпюка пачалі біць у чарговы раз. Па-першае, ён сам даволі рэгулярна ў мясцовай - адзінай! - газеце пісаў пра год 1939-ты, год 1941-ы і пра ўсе наступныя гады... Газета, якая ёсць, але накладам пад 100 тысячаў - абцягнутыя скурай шкілеты-ветэраны НКВД аж пляваліся, гэты «нацыяналіст» зноў ім «подрывал основы». Па-другое, з'явіўся аднекуль БНФ, а стаяць за ім - ясная справа! - мусіў Карпюк: ну хто яшчэ можа за ім стаяць, хіба ж гэтыя сапляі могуць нешта самі?! І вось мясцовы бальшавіцкі камітэт падняў сфабрыкаваную на А. Карпюка ў 1970-м годзе справу, і «пошла писать губерния». Тым жа 100-тысячным накладам - калі плюралізм, дык плюралізм. А ўспамянутага 1 снежня адбывалася канферэнцыя «таварыства беларускай мовы» - на Беларусі! - арганізацыі паказушнай і трагічнай адначасова, якую «экстрэмісты з БНФ» нейкі час выкарыстоўвалі як трыбуну; на гэтую вось трыбуну я залез, расхваліў Карпюка, пералічыў яго кнігі, наклады, узнагароды, а пад канец акуратна «выпісаў» тутэйшым бальшавікам і асабіста іх «першаму» т. Алёшыну... Не буду брахаць, - мне больш патрэбнае было другое, чым першае; пакойны Аляксей Нічыпаравіч быў так бы мовячы прычынай, прэтэкстам... Але ў перапынку падыйшоў узрушаны Карпюк, пацісную руку, сказаў «дзякуй табе, сынок» з нейкай слязою ў голасе і хутка пайшоў далей. І тады я падумаў, што такога ён не чуў даўно, і што ў гэтай іхняй КПСС прынята пляваць выключна ў адзін бок. Бадай што з гэтага і пачаўся мой сапраўдны антыкамунізм і скепсіс да тагачаснай БНФ-аўскай формулы пра «супрацоўніцтва з лепшымі сіламі КПСС»... Якія там сілы! Адно гаўно - наляцелі зграяй на аднаго старога «горшыя», а па кутах «спачуваюць» яму шэптам «лепшыя»! Так што Карпюк троху паўплываў на маё выхаванне...

У разуменні нашых мястэчкоўцаў Карпюк выглядаў вельмі й вельмі дзіўна. Маючы такі ж дурны беларускі характар, як усе мы паглоўна, упіраючыся, брыкаючыся там, дзе трэба і не трэба, ён адначасова лёгка згаджаўся на розныя авантуры, ад якіх «тыповы беларус» уцякае як ашпараны... Спатрэбілася яшчэ пры 6-м артыкуле пра «руководящую и направляющую» незалежная газета - як зрабіць? Ніхто ж не ведаў, што камунякі ляснуць так хутка... Узнікла ідэя: а давай «пры» кім-небудзь зробім «фонд», а ўжо «пры ім» - газету. Пайшлі журналісты Г-ў з Д-вым да Карпюка і мігам дагаварыліся пра... «культурна-асветніцкі фонд »Бацькаўшчына"! Ясная справа, што гэтае «асветніцтва» шытае белымі ніткамі, і што Карпюк гэта разумеў цудоўна... Гэтак сама ў выбары арганізаваў ён, калі спатрэбілася, вылучэнне «нашага» кандыдата - тут усё ўвогуле нагадвала нейкае рэвалюцыйнае падполле. Трэба дадаць толькі, што да старога Карпюка з такой прапановай «экстрэмісты», у тым ліку я, прыйшлі апоўначы, а на падрыхтоўку адвялі яму адзін дзень. Цяпер і смешна, і сорамна троху, бо, напрыклад, «Бацькаўшчыну» падгрэблі іншыя людзі з троху іншымі мэтамі, а той наш «кандыдат» аказаўся слабаком... Але гэта - цяпер, а не тады.

Шчыра кажучы - яго я не разумеў.

Зіма, 1991 год. У Вільні «саветы» забілі чатырнаццаць чалавек пад тэлецэнтрам. У 300-тысячнай Гародні са шматлікай «інтэлігенцыяй» ды прафесурай публічна гэтае забойства асудзілі з постацяў заўважных толькі двое: на імшы у Фарным касцёле біскуп Тадэвуш Кандрусевіч, на пляцы на мітынгу - Аляксей Карпюк...

Але на КПСС ён спадзяваўся далей!

Вясна, 1991 год. Часопіс ЦК КПБ «Политический собеседник», шырока вядомы аж за межамі Беларусі, вылівае на Карпюка чарговае свінства. Той падае ў суд, капітальна рыхтуе працэс - п е р ш ы такога роду на той жа Беларусі. А потым... прапануе НКВД-оўцу, які ў зале суда дыстаў тое ж самае й гэтаксама, як на сваім пленуме,... прымірыцца! Таму, што партыя адна, і няхай партыя дакажа, што таксама можа яшчэ змяніцца, што разумее пра плюралізм і г.д. Той смяяўся яму ў вочы - Карпюк матаў сабе апошнія нервы. Мы на яго ззаду шыпелі, што гэта абсалютнае глупства - не, тут ён зноў быў звычайным «упартым» беларусам. Дзякуй Богу, той псіх адмовіўся... Працэс Карпюк выйграў, у прэсу з гэтай перамогай паўсюдна трапіў, «Политическому собеседнику» і мазгам яго аўтараў гэта памагло як мёртваму прыпаркі... Паўстае пытанне: і чаго было лезці з ім «прымірэннем»?!

Летам таго ж «пераломнага» 1991 года з гэтай КПСС Аляксей Карпюк усё-такі выйшаў. Наглядзеўшыся на яго за два гады, я, прызнаюся, калі пачуў, не паверыў, пазваніў. Той папрасіў пачакаць, потым стаў абсалютна па-дзелавому, як быццам выходзіў адтуль кожны дзень, чытаць тэкст даволі доўгай заявы, нешта накшталт маніфесту: «расчараваўся ў прымаце ідэяў марксізму» і г.д. Спачатку я не зразумеў, нашто ён гэта робіць. Потым дайшло - тады я працаваў у адной мясцовай газеце, і Карпюк гаварыў са мной не проста так, а па с п р а в е, не як са знаёмым, а як з журналістам... Таму што гэта, гэты яго выхад - гэта падзея. Я запісаў тэкст, на лепшым месцы змясціў нататку з цытатамі - Карпюк быў задаволены. І зноў ён мяне апярэдзіў: цяпер, калі яго няма, ясна, што для нашага мястэчковага балота гэта сапраўды была падзея. Нейкі апошні этап...

Потым душны жнівень, ГКЧП, лёгкая паніка сярод «дэмакратаў», Ельцын на танку, тутэйшае былда ў надзеі «может, товары какие будут?», абвяшчэнне незалежнасці, адстаўка Дзэмянцея, забарона КПСС...

А крыху раней Карпюк трапіў у бальніцу. Потым званкі, Менск, аперацыя, адрэзаны страўнік. І стала ясна, што скора канец...

Паміраў ён цяжка - так, як і жыў. Апускалі яго ў магілу пасля ганаровых вартаў, дзяржаўнай камісіі, прамоваў, прамоваў, прамоваў, апускалі пад схілёнымі бел-чырвона-белымі дзяржаўнымі сцягамі, але пад гукі таго ж халопскага «Мы, беларусы, з братняю Руссю...», пад развітальныя залпы з «калашнікавых» у руках салдацікаў з літарамі «СА» на пагонах, але невядома якой арміі, якога краю, якога свету...

17 ліпеня 1992 года. Няма Аляксея Карпюка.

Як і ўся эпоха ў яго - н а р а з л о м е - апынулася мая першая кніжка. Карпюк пра яе ведаў, чакаў, памагаў дзе мог па старых сувязях; ужо ляжачы, ведаў, што яна выйшла, але пакуль даслалі сюды, ён ужо не чытаў і не гаварыў... І цяпер я чую тое, што, пэўна, усё жыццё чуў ён: сорам за тое, у чым няма тваёй віны, але за што не чуць сораму нармальны чалавек не можа.

Ён быў і такі самы, і абсалютна другі. Гэта быў чалавек іншага пакалення. Пакалення мужыкоў, якія даходзілі да навукі, да культуры - і абагаўлялі яе. У Заходняй Беларусі сталася так, што ў Варшаве быў чужы, а ў Менску, думалі, свой... Думалі, што багацце, дабрабыт, культура, шчасце т а м. Усё гэта разам называлася камунізмам... Ключ да разумення ёсць у таго ж Карпюка: «...стала трапляць да нас нелегальная літаратура за мяжы. Было там шмат спецыяльных словаў, тэрмінаў. Многае мы не разумелі, а таму верылі ўсяму, што напісана...».

Мужыцкі народ ужо ведаў, што кніга нясе дабро. Ён яшчэ не ведаў, што і кніга можа гэтаксама хлусіць, як чалавек. «Вось сімвал твой, забыты краю родны!...».

А потым трыццаць дзевяты год, потым вайна, потым тысячы і тысячы «васточнікаў», НКВД-оўцаў, адстаўнікоў. І ўсе ў той жа партыі, - хаця ж у ВКП/б/ Карпюк, па сутнасці, не ўступаў ніколі, бо ўступіў ён да КПЗБ, а гэта былі трошкі розныя арганізацыі, - усе вучаць жыць, а гаспадарыць не ўмеюць...Трагедыя Аляксея Карпюка ў тым, што ён любіў людзей. Ён быў упэўнены, што праўдай і розумам гэты свет можна выправіць, наладзіць, палепшыць. І вось хадзіў, тлумачыў, прасіў, выступаў, ваяваў...

І гэта самае галоўнае, што ён зрабіў для Беларусі, пад чым сцягам яго пахавалі на новых гарадзенскіх могілках.

Зямля яму пухам...

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

*27 ліпеня 1992 года*

## АЛЯКСЕЙ КАРПЮК ( 1920–1992



Аляксей Карпюк нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава каля Гарадка. Да вайны вучыўся ў Віленскай гімназіі, а потым, у 1939-1941 г.г. - у Навагрудскім педагагічным вучылішчы. У час нямецкай акупацыі змагаўся ў падполлі. Спазнаў таксама жудасць канцэнтрацыйнага лагера. У радах Савецкай Арміі ваяваў на тэрыторыі Польшчы і Германіі ў 1944-1945 гадах. Пасля вайны жыў і працаваў у Гродне. Дэбютаваў у 1953 годзе аповесцю «У адным інстытуце».

Аляксей Карпюк падтрымоўваў сувязі з Беласточчынай, наведваў свае родныя мясціны, адгэтуль чэрпаў тэмы для сваёй літаратурнай творчасці. У аповесці «Пушчанская адысея» апісаны падзеі з жыцця аўтара, вязня канцлагера Штутгаф, а пасля ўцёкаў - партызана, камандзіра партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага на Беласточчыне. Беластоцкай тэматыцы прысвечаны раман-быль «Вершалінскі рай» аб Ільі Клімовічу з Грыбоўшчыны і яго рэлігійнай секце. Аляксей Карпюк неаднойчы друкаваўся на старонках «Нівы», прыязджаў у Беласток на сустрэчы і літаратурныя мерапрыемствы «Белавежы».

Вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі Аляксей Карпюк памёр 14 ліпеня 1992 года пасля цяжкай і працяглай хваробы.



# ФОТА–ВІТРЫНА

*Беларусь ідзе да рынку. Некаму дастаюцца магазіны, прадпрыемствы, а некаму...*

Фота
Сяргея Плыткевіча з Менска

# БЕЗ ПРАЦЫ

Як жыць, калі чалавек не мае пастаяннай працы? Як будаваць сваю будучыню на аказійных, выпадковых заробках? Гэтыя пытанні з'яўляюцца штодзённа ў галовах каля 150-ці беспрацоўных у гміне Белавежа. Іх лік, на жаль, пастаянна расце. Яшчэ ў пачатку года без працы было каля ста чалавек.

У апошні час дайшло каля 30 асоб з ліквідаванага Трыкатажнага прадпрыемства, якое падлягала Інваліднаму кааператыву „Постэмп" у Гайнаўцы. З пачаткам чэрвеня г.г. 16 чалавек было вымушана адыйсці з Лабараторыі даследавання млекакормячых ПАН. Па некалькі чалавек пазбываюцца, што сталася ўжо амаль правілам, таксама іншыя белавежскія ўстановы ці прадпрыемствы. Рэдка дзе працаўнікі не турбуюцца, што заўтра ці паслязаўтра менавіта ім беспрацоўе загляне ў вочы. Асабліва напружаная сітуацыя ў надлясніцтве Белавежа (ды датычыць гэта і іншых надлясніцтваў), дзе мае быць праведзена рэарганізацыя. Ужо людзей адсылаюць на заўчасныя пенсіі, звальняюць парушаючых дысцыпліну працы.

Новых месцаў працы практычна не прыбывае. Створанае прыватнай суполкай (у звольненых Трыкатажным прадпрыемствам памяшканнях) прадпрыемства вырабу ласункаў і піражнага практычна возьме (а хутчэй - можа прыняць) звольненых інвалідаў. І гэта ўсё. Іншым астаецца пільнаваць свабодныя месцы ў тутэйшых установах. І пільнуюць яны! Вось на адно месца, звольненае ў гміннай бібліятэцы, заявы склала аж 20 чалавек. Хаця здараюцца і супрацьстаўныя выпадкі, напрыклад, прыродазнаўчы музей з-за недахопу кандыдата па лясных ці біялагічных студыях і з веданнем англійскай ці нямецкай мовай ужо амаль два месяцы працуе без захавальніка фондаў (кусташа).

А што з так званымі інтэрвенцыйнымі працамі, хтосьці спытае? Што ж, у іх рамках гміна магла даць занятак толькі сямі асобам. Яны добраўпарадкоўваюць месцы нацыянальнай памяці, памагаюць пры працах ля Дома культуры, на стадыёне, прыбіраюць стаянку аўтамабіляў і іншыя публічныя месцы, абслугоўваюць звалку смецця і т.п.

І толькі падумаць, што яшчэ пару гадоў назад людзей, якія ўхіляліся ад працы, каралі!

**ПЁТР БАЙКО**

## З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, МАРК ЗАХАРАВІЧ, З ВЯРТАННЕМ НАЗАЎСЁДЫ!

Гэтыя словы віцебскага паэта Давіда Сімановіча фактычна сталі дэвізам Шагалаўскіх дзён, што прайшлі нядаўна на радзіме генія — у Віцебску.

Упершыню па-сапраўднаму яна з любоўю і замілаваннем аддала належнае вялікаму сыну свайму. Свята,якое складалася з шэрагу імпрэз, прыцягнула навукоўцаў і творцаў — віцеблянаў ды гасцей з самых розных куткоў Еўропы: Менска, Масквы, Майнца, Гётынгена, Легніцы... Яны зладзілі II Міжнародныя чытанні, якія яшчэ раз паказалі веліч творчасці Майстра, ролю роднага горада ў ёй.

Акрамя трохдзённых чытанняў, нарэшце створана экспазіцыя ў бацькоўскім дамку Мастака і Паэта. З яе і пачнецца арганізацыя сапраўднага музея, які стане асяродкам захавання памяці аб Творцы. У пачатку Пакроўскай — вуліцы дзяцінства Шагала — узнеслася ў вышыню арка-помнік вялікаму віцяблянiну.

Аднак памяць пра мастака не толькі жыве, але і дае штуршок мясцовай інтэлігенцыі да актывізацыі, адраджэння духоўнага жыцця Віцебска, якое віравала тут на пачатку стагоддзя і, асабліва, у шагалаўскія 20-ыя гады. Дзеля гэтага тутэйшыя энтузіясты ўтварылі Арт-цэнтр Марка Шагала, які павінен стаць падтрымкай беларускаму мастацкаму працэсу ў Віцебску.

**ЮРАСЬ СЦЯПАНАЎ**

# ГРЫНЕВІЧЫ ВЯЛІКІЯ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Уніяцкая царква, хаця фармальна была зраўнаная з рымска-каталіцкім касцёлам, нядоўга аднак трымала пры сабе значную колькасць грыневіцкай шляхты, абаротнай і жадаючай кар'еры ў „шырокім свеце". У дзяржаве Зыгмунта III трэба было быць рымакатолікам, каб стаць паўнацэнным грамадзянінам. І так, у І пал. XVII ст. пачаўся паступовы пераход даўніх грыневіцкіх баяр з уніяцтва ў рымакаталіцызм. У сувязі з гэтым, у XVII ст. наглядаецца набілітацыя роду Грыневіцкіх ва ўсёй Рэчыпаспалітай. Грыневіцкія займаюць як важныя адміцтрацыйныя, земскія, так і касцельныя пасады. Каспар Нясецкі, аўтар „Гербаря Польскага" (выд. Ліпск 1839 г.) піша:

„Hryniewicki herbu Przegonia (магчыма: Pogonia). W Podlaskiem województwie Filemon, Benedykt i Jan Hryniewiccy 1632. Paweł skarbnik ziemi Bielskiej 1674. Franciszek skarbnik ziemi Bielskiej, deputat, ad pacta conwenta Augusta II, 1697. Michał proboszcz katedralny Kamieniecki kanonik Łucki, deputat koronny, kilka razy. Kazimierz Fiedorowicz Hryniewicki w księstwie Litewskim 1700 „(...)".

Той жа Нясецкі піша далей пра аднаго з найбольш славутых Грыневіцкіх, Паўла:

„(...) ten Michał zostawił synów dwóch: Felicjana i Pawła vice-regenta Brańskiego mającego possesyą swoją przy ojcu i dziadu swoim na Hryniewicach wielkich w Podlasiu. Tenże podpisał elekcyą Stanisława Augusta Króla z województwem Podlaskim. Idąc w swem województwie a w ziemii Bielskiej przez stopnie zasług, obrany jednomyślną zgodą obywateli podkomorzym ziemi Bielskiej, i od Króla Stanisława Augusta orderem św. Stanisława zaszczycony, ten wszedł w śluby małżeńskie z Małgorzatą Dłużewską (...)".

Грыневічы спарадзілі пасля яшчэ не аднаго вядомага чалавека, але аб гэтым будзе далей. Цяпер вернемся да Ільінскай царквы ў нашай мясцовасці.

У 1727- годзе агульных візітацыяў уніяцкіх падляшскіх цэркваў была апісана і грыневіцкая царква. Паводле апісання царква была драўляная, малая, не старая яшчэ (хаця гонтавы дах быў паросლы мохам). На даху знаходзіўся адзін купал і чатыры крыжы.

З унутраных элементаў храма можа звярнуць увагу прысутнасць іканастаса, які мог яшчэ паходзіць з праваслаўных часін. Пра іканастас у „Візітацыі" 1727 года чытаем:

„ Carskie Drzwi snicersko rznięte Między kolumny z pozłotą Magnifio — oprawione, z wierzchu Conterfekt wieczerzy Pańskiey. Sywierne Drzwi tylo iedne z zawiasów wyłamane (...) Carskie Drzwi stolarskie Stare."

„Візітацыя" таксама звяртае ўвагу на прыгожыя іконы ў іканастасе і на сценах храма. Можна таксама падкрэсліць характэрнае распалажэнне храма — на пагорку, побач магіл, сярод лугоў над р. Белай; яно вельмі старадаўняе (сам пагорак, рэгулярнага кшталту, паверхняй 0,41 га, мабыць з'яўляецца цікавым археалагічным аб'ектам).

„Візітацыя" 1727 г. прыводзіць нам імя грыневіцкага настаяцеля. Быў ім а. Раман Рэшчыц. У яго прыходзе знаходзіліся сёлы: Грыневічы Вэлікі, Грыневічы Меншы, Грыневічы Махнікі(?), Суботка, Лычана (?), Катлы, Арлянка і Белая.

У гэты ж час у саміх Грыневічах пражывала дзесяць землеўладальнікаў Грыневіцкіх (з даўніх баяр). Кожная сям'я мела сваю мянушку-прозвішча, напр. Голодчукі, Леўковічы, Акулічы, Валховічы, Мелешкі, Ракшы. Калі большасць жыхароў сяла Катлы, Арлянка ці Белая былі прыхаджанамі уніяцкай царквы ў Грыневічах, цяжка сказаць, колькі з самой грыневіцкай шляхты было уніятаў, а колькі ўжо рымакатолікаў. Ведаем толькі, што Ян(?) Гаеўнік Грыневіцкі ў 1771 г. завяшчае Ільінскай грыневіцкай царкве грашовы фонд (75 руб.), з адначасовым запаветам служыць у царкве 36 заўпакойных літургіяў у год у інтэнцыі ахвярадаўцы. Працэнты з яго ахвяравання царква атрымлівала яшчэ да 1873 г. Другім ахвярадаўцам, у 1792 г., быў свяшчэннік Уладзіслаў Шумікоўскі (150 руб.)

Пад 1788 годам з метрыкі Чыжоўскай царквы даведваемся, што свяшчэннікам царквы ў Грыневічах быў а. Мікалай Даніловіч. У гэтым жа годзе ў а. Мікалая нарадзіўся сын Ігнат. Ігнат Даніловіч — будучы прафесар Віленскага універсітэта, карпатлівы даследчык княжай вялікалітоўскай (беларускай) мінуўшчыны, аўтар „Скарбца дыпламатаў"... і шмат іншых выданняў. Малыя гады Ігната Даніловіча прайшлі ў тых самых баярскіх Грыневічах; тут Ігнат пазнаваў першыя гукі роднай мовы; тут, у царкоўцы першы раз дакранаўся да даўніны і традыцыі; Грыневічы далі яму добрае натхненне да так плённай будучай працы. Памёр Ігнат Даніловіч у 1843г. у Маскве, на вымушаным пражыванні ў Расіі, так і не ўбачыўшы перад адыходам сваіх родных мясцін (пра Даніловіча больш у „Ніве", з 25.12.1988 г.).

Не ведаем дакладна, калі бацька Ігната Даніловіча а. Мікалай апошні

## ШТО ПАСЕЯЛІ, ТОЕ ПАЖЫНАЮЦЬ

Алесь Барскі ў „Рэлігійных дылемах" (Частка XXI, „Ніва" ад 28.06.92 годзе) бядуе, што, цытую, „адной са з'яў, выступаючых на ўсёй тэрыторыі Беларусі, і, несумненна, ганьбячых нашу нацыю, ёсць стан праваслаўных могілак". І далей піша, што няма над могілкамі апекі, усё развальваецца, няма агароджы, пасвяцца козы і г.п. Ну, што ж, былы СССР развальваецца і ўся краіна выглядае як могільнік. Але — якія высновы з гэтага?

Паважаны спадар А. Барскі! Хто вінаваты ў тым, што дзесяткі гадоў у СССР (і, зразумела, у БССР) панаваў гэткі беспарадак (не толькі, дарэчы, на могілках)?

Адказваю за Вас: камунізм і яго будаўнікі. Калі ён усё яшчэ будаваўся, Вы, як знакаміты аратар, падтрымлівалі яго і ўсхвалялі ў сваіх выступленнях. Царква, могілкі, рэлігійныя пачуцці людзей у БССР — усё гэта было для Вас у найлепшым парадку. А тут такая перамена?

Дарагі спадар А.Барскі! Тое, што Вы пішаце пра балаган, які назіраецца ў Беларусі (у тым ліку і на могілках) — дык гэта ўсё праўда, і я гэтаму веру. Бо інакш і не можа быць. Аднак Вам не хапіла адвагі напісаць пра гэта яшчэ пяць гадоў таму, калі б такое ўспрынялося чытачамі „Нівы" як сенсацыя. А сёння? Як кажуць старыя людзі, — і без папа ведаем, што ў нядзелю свята. Усе ведаюць не горай за Вас, да чаго прывёў бальшавізм у СССР.

Так наогул бывае: колішнія вучні Маркса і Леніна сёння становяцца ў першыя рады змагароў за новае (раней за атэізм, цяпер — за рэлігійнасць). І кідаюць папрокі ў адрас народу, які, маўляў, ажно да такой дзікасці дакаціўся. А тое, што яны самі да гэтага спрычыніліся, яксьці „забываецца".

# НАШЫ КАРАНІ

## XL. ДЗЕЛЯ ЎМАЦАВАННЯ І ПАГЛЫБЛЕННЯ ВЕРЫ

У XIII-XIV стагоддзях разам з умацаваннем і ростам Беларускай дзяржавы /Вялікага княства Літоўскага/ фармавалася і развівалася ў ёй літаратурная творчасць. Узрастала яна перш за ўсё на традыцыях праваслаўнага духоўнага жыцця і выяўлялася ў «руськім языку», «рускай мове», гэта значыць: у старажытнай беларускай мове. Беларуская мова была дзяржаўнай мовай, мовай князя, яго двара, службоўцаў, дзяржаўных і прыватных дакументаў, на ёй размаўляла і пісала насельніцтва, на ёй складаліся арыгінальныя і на яе перакладаліся з іншых моваў розныя творы. Калі свецкая творчасць тады была яшчэ ў зачатковым стане, то духоўная літаратура сягала свайго росквіту.

Самымі папулярнымі былі жыціі святых. У іх апісваліся набожнае жыццё ды незвычайнае падзвіжніцтва ў штодзённых і асаблівых абставінах выбраннікаў і выбранніц Божых, якія паходзілі з беларускіх зямель. Да гэтых твораў належаць: «Жытіе і терпеніе преподобнаго отца нашего Аврамья, просветівшагося в терпеньи мнозе, новаго чюдотворца в святых града Смоленьска», «Жытія блаженья Еуфросиніи» /Полацкае/, «Слово о Меркурии Смоленьском», «Мученіе святых новоявленых мученик родом Литвы Іоана, Антонія и Еустафія. Литовская ж им имена Круглець, Кумець, Нежило», пераказанае па-беларуску старажытнае «Сказанье и страсть и похвала святую мученику Бориса и Глеба» і іншыя жыціі. Большасць з іх мы пераказвалі змест у папярэдніх адрэзках «Нашых каранёў».

У тым жа часе шырока вядомы былі «Хаджэнні», або як бы мы сёння сказалі: «Уражанні з падарожжа ў святыя мясціны». Праваслаўныя Беларусі, асабліва манахі, свецкае духавенства, князі, заможныя людзі часта падаваліся ў мясціны, дзе прабываў на зямлі Ісус Хрыстос, дзейнічалі Апосталы, Вялікамучанікі, Айцы Царквы. Сярод дайшоўшых да нашага часу «хаджэнняў» вылучаецца сваім багатым зместам, дакладнасцю вопісаў, цікавымі арыгінальнымі назіраннямі «Хаджэнне ў Царград і Іерусалім» а. Ігнацыя Смаляніна. Як паказвае само прозвішча, а. Ігнацій паходзіў са Смаленскай зямлі, быў манахам. У Візантыю падаўся ён у 1389 г. як спадарожнік епіскапа смаленскага Міхаіла. Чатыры гады а. Ігнацій прабываў у Канстанцінопалі, дакладна спазнаў сталіцу Праваслаўя і прачулена апісаў яе манастыры і рэліквіі, звяртаючы ўвагу перш за ўсё на тое, што складала найяскравейшыя выявы праваслаўнае культуры. Не абмінаў пры тым і найважнейшых падзеяў у грамадскім жыцці Канстанцінопаля, вельмі каларытна, напрыклад, апісаў каранацыю візантыйскага імператара Мануіла. У 1393 г. смаленскі паломнік трапіў у Святую Зямлю і там наведаў, дакладна абгледзеў і потым падрабязна апісаў самыя блізкія сэрцу кожнага праваслаўнага чалавека святыя мясціны ў Палесціне, храмы, капліцы, асабліва тыя месцы, дзе прабывалі Ісус Хрыстос, Божая Маці, Святыя Апосталы. Пры гэтым не прамінуў перадаць народныя паданні і легенды, якія паглыблялі ўражанні чытачоў. Падаў таксама дакладныя адлегласці паміж паасобнымі мясцовасцямі, велічыню і выгляд розных збудаванняў, як быццам бы не толькі даваў вобразнае ўяўленне чытачам, але і запрашаў іх у паломніцтва, служыў ім правадніком. Усё тое Смалянін падаў надзвычай проста, даступна і такім чынам узмацняў уражанне пры чытанні яго твора. У 1395 г. а. Ігнацій трапіў у Салунь /Феса-лонікі/, а затым на Святую Гару Афон і адтуль таксама пакінуў у сваім «Хаджэнні» надзвычай яскравыя апісанні-нарысы.

Памёр выдатны беларускі пілігрым каля 1405 года ў адным з манастыроў на Афоне. Яго каштоўнейшы твор трапіў і ў Беларускую дзяржаву і ў Вялікае княства Маскоўскае. Некалькі стагоддзяў «Хаджэнне» а. Ігнацыя Смаляніна карысталася незвычайнай папулярнасцю, ім зачытваліся адукаваныя і заслухваліся неадукаваныя людзі. Ён набліжаў ім цудоўны свет Святых Мясцінаў, умацоўваў і паглыбляў іхнюю веру, быў радасным спатканнем з Боскім на зямлі.

«Хаджэнне ў Царград і Іерусалім» а. Ігнацыя Смаляніна не страціла свае духовае, мастацкае і пазнавальнае каштоўнасці і ў нашыя часы, хоць яму неўзабаве споўніцца 600 гадоў ад часу напісання.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

раз адслужыў богаслужэнне ў грыневіцкай царкве. Вядома, што ў час вяртання царквы на ўлонне Праваслаўя ў 1839 г. настаяцелем Ільінскай царквы ў Грыневічах быў а. Станіслаў Асташэвіч. На долю гэтага свяшчэнніка выпала аб'яднаваць сялян і шляхту вакол Праваслаўнай царквы. З гэтымі другімі было найцяжэй. Даўняя праваслаўная (пасля уніяцкая і рымска-каталіцкая) шляхта, канчаткова прыняла рымскакаталіцкае веравызнанне.

У 1847 г. прыход налічваў 281 мужчын і 275 жанчын. Большасць прыхаджан складалі жыхары вёскі Катлы. Пасля а. Станіслава Асташэвіча пасад грыневіцкага настаяцеля прымае а. Платон Ральцэвіч, які служыць тут да канца 1863 года. Ён разам з прыхаджанамі пачынае капітальны рамонт царквы і званіцы.

Наступны свяшчэннік а. Мікалай Бурса не затрымліваецца доўга ў Грыневічах. У 1866 г. на яго месца назначаецца малады, энергічны святар а. Уладзімір Маркевіч. Ён ад самага пачатку пачынае актывізаваць прыход да царкоўнага і асветна-культурнага жыцця. Сваімі непасрэднымі адносінамі да прыхаджан адразу знаходзіць вялікі ў іх давер. Сучаснікі а. Уладзіміра звяртаюць увагу на яго глыбокія, кранальныя пропаведзі, якія гаварыў на „простом наречьи". Вядома, пропаведзі на жывой роднай мове былі блізкія сэрцу прыхаджан, уплывалі на разуменне імі павучальных слоў ды спрыялі іх добрым адносінам да самога свяшчэнніка.

У 1870 годзе сіламі прыхаджан будуецца новы дом для свяшчэнніка. Праз чатыры гады а. Уладзімір праводзіць чарговую абноўку храма — былі ашаляваны і памаляваны алейнымі фарбамі сцены ўнутры храма. Быў таксама перароблены іканастас), (у „Літоўскіх Епархіяльных Ведамасцях" н-р 7/1881 г. пра грыневіцкую царкву перад рамонтам было запісана: „Церковь въ роде простого крестьянского сарая, устроенная изъ неочищеннаго и невыглаженнаго дерева (...) Топорной работы иконостасъ, въ которомъ кроме двухъ местныхъ, довольно благообразныхъ иконъ, было размещено, безъ всякой симетріи, многое множество, разнаго рода, разнаго достоинства и разнаго размера".)

Пасля заўчаснай смерці а. Уладзіміра Маркевіча ў 1880 г. настаяцелем грыневіцкай царквы становіцца а. Іаан Пісканоўскі. Будучы святаром, высокаадукаваным як у багаслоўскіх, так і ў філасофскіх і фізіка - матэматычных навуках, а. Іаан разумее важнасць адукацыі сваіх прыхаджан. У 1884 г. у найбольшай вёсцы прыхода — Катлах была адчынена царкоўна-прыхадская школа.



*Царква ў Грыневічах.*

У 1884/85 г.г. навучалася ў ёй 23 хлопцаў і 7 дзяўчынак. Заняткі вёў мясцовы псаломшчык (у 1880-1886 г.г. быў ім Ігнат Разумовіч; 1886-1889 — Андрэй Паеўскі; 1889-1915 — Уладзімір Ганчарук); заняткі Закону Божага вёў свяшчэннік. Апрача таго, ведаем, што ў 1896 г. у Катлах навучаў Карнілій Саўчук. У гэтым жа годзе а. Іаан Пісканоўскі назначаецца „наблюдателем" царкоўна-прыхадскіх школ ва ўсім павеце (уездe).

Вядома, школа была важным цэнтрам культурнага жыцця прыхода. Дайшло да нас апісанне святочнай ёлкі 1899 г. у катлоўскай школе (Л.Е.В. 10/1899). Апрача дзіцячых вершаў, царкоўных песняў і спеваў, гучалі на ёлцы і велічальныя словы для расійскага імператара, напрыклад, песня „Славься, славься наш русскій Царь". Гэта было агульнае і характэрнае таму часу.(Грыневічы, аднак, і без таго былі, можна сказаць, „абавязаныя" аддаваць асаблівую чэсць імператару; над імі ж з 1882 года павіс цень злачынства, учыненага Ігнатам Грыневіцкім — забойства цара Аляксандра II).

Адначасова з развіццём школьніцтва, таксама грыневіцкая царква ўзбагачаецца новымі ахвяраваннямі. Пастулаюць грашовыя ахвяраванні і новыя іконы. Купляюцца новыя аблачэнні, а ў 1894 г. дабудоўваецца званіца над прытворам. Варта таксама адзначыць ахвяру 100 рублёў ад а. Іаана Сяргеева (св. Іаана Кранштадскага).

*(Заканчэнне будзе)*

*М.С і Р.С.*

# ШТО ЧЫТАЕ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прафесар С. Шушкевіч атрымлівае **1,5 тысячы лістоў штомесячна.** Для апрацоўкі пошты створаная спецыяльная група, якая кожны дзень прадстаўляе першай асобе рэспублікі кароткі паштовы агляд. Пра што ж пішуць незалежныя беларусы Станіславу Станіслававічу?

Апроч просьбаў атрымаць зямлю, памагчы з кватэрай, рамонтам, лячэннем дзяцей ды іншых асабістых справаў, большасць, аднак, складае пошта палітычна-філасофская. Кожны другі ліст да С. Шушкевіча змяшчае такія, напрыклад, радкі: **«Змова трох „пушчыстаў" - нечаканая і жахлівая, нездарма вы робіце ўсё па начах, па лясах. Навошта ўкралі нашу Радзіму?".** Альбо так: **«Няўжо не зразумела, што СНД - гэта нязначныя кавалкі, якія ніхто не будзе прымаць усур'ёз?».** Нічога сабе «кавалкі»! Адна Украіна на 50 млн. чалавек...

Даволі часта прыходзяць просьбыскаргі ад ветэранаў наконт **«незаконнага разгону кампартыі».** Для раўнавагі другія грамадзяне працавіта пішуць і патрабуюць ад шэфа парламента **«быць пільным, бо верныя ленінцы зноў выходзяць з акопаў!».** Вось і круціся...

Кожны дзень, - кож-ны!!! - прыходзяць лісты пра рэфэрэндум аб новых выбарах і датэрміновым роспуску цяперашняга парламента. Старшыню папракаюць у нерашучасці назваць па імені **«лідэраў-правакатараў, бо іх трэба выводзіць на чыстую ваду, гэткіх ... і ..., даць ім ... мацьмаць!...».** Тут, зразумела, маецца на ўвазе БНФ як ініцыятар рэфэрэндуму. Болей аўтараў патрабуюць адваротнага: **«Няма больш сілаў глядзець, што робіцца ў парламенце! Да якога часу камуністычная большасць будзе прымаць не тыя законы?!».**

Традыцыйна шмат спецыялістаўаграрыяў. Адны пратэстуюць супраць «развалу калгасна-саўгаснага ладу», іншыя абураюцца, што **«калгасная зямля зарастае пустазеллем, а камуністы ходзяць сабе рукі ў брукі, а ... у рукі!»;** гэтыя ж абураныя раяць шаноўнаму С. Шушкевічу **«ствараць трывалую базу для фермерства, бо досыць сялянам быць жабракамі на сваёй зямлі»,** але радыкалы з іншага боку дамагаюцца, наадварот, **«прымусіць усіх дармаедаў з месцаў вярнуцца ў вёску, раздаць яе гараджанам»** /цікава, што раздаць, калі на вяскоўца прыпадае ў сярэднім па 4-5 га зямлі, а ёсць рэгіёны, дзе толькі па 2-2,5 га! - заўвага аўт./. Нарэшце, як апафеоз, гучыць натхнёнае **«ды адправіць іх усіх на вёску, як гэта зрабіў у Кітаі Мао Цзэ-дун!».**

Шмат пішуць з левабярэжнай Малдовы, з Азербайджана: прышліце сваіх беларусаў, яны спакойныя, яны нас пaveraging... 

Пішуць таксама пра злачынствы, разбой, спекуляцыю, хабарніцтва, крадзяжы, несправядлівасць...

Такая пошта ў Станіслава Шушкевіча. Прынамнейн, так паведамляе менская газета «Звязда».

Прачытаў і скараціў
**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

# ФЭСТЫН У ГАЙНАЎЦЫ

У нядзелю 26 ліпеня адбыўся ў гарадскім парку ў Гайнаўцы «Беларускі фэстын». Арганізавалі мерапрыемства Гарадскі аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Запачаткаваў фэстын вакальнаінструментальны калектыў «Рэзананс» з Гародні. Над амфітэатрам гарадскога парка вісела спёка - тым не менш усе лавачкі паволі напаўняліся народам. Кіраўнік гарадзенскага калектыву, ад імя арганізатараў, прывітаў праз мікрафон прыбыўшую публіку, калектывы і гасцей: старшыню Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандра Баршчэўскага, яго намесніка Яна Сычэўскага, сакратара ГП БГКТ Валянціну Ласкевіч, бурмістра Гайнаўкі Мечыслава Гмітэра, гмінныя і гарадскія ўлады.

Як наказвае традыцыя, афіцыйна запачаткавалі гайнаўскі фэстын прамовы гасцей. Першым слова ўзяў бурмістр Гайнаўкі. У кароткай форме, не зацягваючы, прыгадаў ён усім сабраным нашы неаспрэчныя канстытуцыйныя правы. Права на свабоду, культурную і рэлігійную адасобленасць - гэта прыроджанае чалавеку права, гарантуе яго канстытуцыя Рэчыпаспалітай. Практычным здзяйсненнем гэтага права з'яўляецца і гайнаўскі фэстын. Бурмістр пажадаў, каб такія і падобныя ім імпрэзы спрыялі інтэграцыі польскай і беларускай грамадскасцяў у нашым рэгіёне.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандр Баршчэўскі сказаў:

- (...) У апошнім часе раздаюцца галасы нашых праціўнікаў, і тых праціўнікаў, якія не выводзяцца з польскага асяроддзя, а якраз з беларускага, якія гавораць аб тым, што Беларускае таварыства - гэта мёртвая арганізацыя, што непатрэбная арганізацыя. Мала, гэтыя ж людзі патрапяць і ў Міністэрстве культуры, у прысутнасці міністра, заахвочваць, каб не давала грошай на тыя мерапрыемствы, якімі мы займаемся. А мы займаемся тым самым, чым займаліся ад 36 гадоў - ратуем беларускую культуру на гэтай зямлі, роднай зямлі, пад гэтым небам, родным небам. І сённяшні фэстын, на які вы прыйшлі, зноў масава і тлумна, будзе далейшым доказам на тое, што тут сказаў толькі што бурмістр горада Гайнаўкі - каб гэтая зямля была зямлёй супольнага жыцця, згоднага сужыцця беларусаў і палякаў (...)

Аляксандр Баршчэўскі перадаў вядзенне фэстына прыгажуні з Беластока Валянціне Ласкевіч, якая да



*Віктар Швед падпісвае кніжкі.*



*„Чыжавяне" з Чыжоў.*

# БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ

*Працяг са стар. 1*

акружалі вёску і рукамі прадстаўнікоў гэтых „братніх" народаў палілі, расстрэльвалі або вырэзвалі яе жыхароў.

Рэчаіснасць тае эпохі была больш складаная, чымсьці вобраз, прадстаўлены прапагандыстамі, гісторыкамі, літаратарамі, кінарэжысёрамі. Думаю аднак, што апошняе слова на гэту тэму не было яшчэ сказана. Ёсць шмат спраў, якія заўсёды будуць выклікаць сумненні, не будзе ніколі аднадумства ў поглядах на гэтыя кашмарныя падзеі ў жыцці беларускага народа.

На Беласточчыне нямецкая акупацыя пачалася ў момант, калі савецкая палітыка дасягнула апошняй ступені злачынства і ідыятызму. 27 чэрвеня 1941 г. нямецкія войскі занялі Беласток. У горадзе гарэлі магазіны, падпаленыя савецкімі войскамі, каб тое, што ў іх знаходзілася, не трапіла ў нямецкія рукі. На пуцях стаялі цягнікі з таварнымі вагонамі, поўнымі людзей, якіх энкавэдзісты не паспелі вывезці або расстраляць. Амаль у кожнай гміне немцы знайшлі спіскі „кулакоў" і „ворагаў народа", прадбачаных да вывазу на ўсход і поўнач імперыі Сталіна. Новыя акупанты палічылі сябе вызваліцелямі і за выратаванне ад бальшавікоў усе мужчыны з савецкіх спіскаў, якія раней служылі ў польскай арміі, мелі прыйсці працаваць у паліцыі. На працу мелі таксама вярнуцца ўсе паліцыянты і чыноўнікі, якія выконвалі гэтую прафесію да верасня 1939 годзе Зразумела, што гэты апошні загад не кранаў беларусаў, бо ў ІІ Рэчыпаспалітай яны не працавал ў дзяржаўных установах.

Уваход нямецкай арміі ў 1941 г. выклікаў энтузіязм сярод палякаў. Дэпартамент унутраных спраў Дэлегатуры Лонданскага ўрада інфармаваў прэм'ера Сікорскага, што „... ogólny nastrój wśród ludności polskiej to radość z powodu uwolnienia się spod terroru bolszewickiego i połączenia się z resztą kraju (...). Na Białostocczyźnie na terenach białoruskich, część młodzieży o przekonaniach faszystowskich poszła na służbę niemiecką tworząc oddziały milicji. Propaganda niemiecka wywołała przyjazne dla siebie nastroje. Twierdzono, ze Niemcy przyszli uwolnić kraj od bolszewików i Żydów i podszepnieto myśl urządzenia pogromów żydowskich, które miały miejsce na wiekszą skalę w powiatach szczuczyńskim, łomżyńskim, augustowskim i białostockim. W chwili obecnej prawie wszystkie posterunki administracyjne z wyjątkiem kierowniczych znalazły się w rękach Polaków. Służbę porządkową pełni policja miejscowa, zorganizowana wyłącznie z byłych policjantów polskich".

Што датычыць беларусаў, гатовых служыць немцам, было іх нямала, аднак у ніякай ступені не маглі яны канкураваць з палякамі. Беларусам бракавала перад усім адукаваных людзей, якія валодалі б нямецкай мовай. У першыя месяцы акупацыі было вельмі важнае тое, хто мае ўплывы і доступ да інфармацыі. Нямецкімі рукамі вырашалася тады шмат праблемаў. Хапіла назваць кагосьці камуністам, або супрацоўнікам савецкай улады, каб пазбыцца невыгоднага сабе чалавека. Пакуль немцы не сарыентаваліся ў існуючай тады сітуацыі, шыбеніцы ва ўсходняй Беласточчыне будаваліся аж надта густа.

18 ліпеня 1941 г. выйшаў у Беластоку першы нумар беларускай газеты „Беларускі голас". Яе галоўным

ранейшых пажаданняў далучыла ад сябе пажаданні добрага настрою, добрых ураженняў і добрага адпачынку.

Артыстычную частку фэстына працягваў гарадзенскі «Рэзананс» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Васільева. Калектыў праспяваў некалькі песень, а закончыў сваю праграму, як сказаў сам кіраўнік, самай папулярнай у Гародні песняй - «рэзанатары» ўрэзалі адзін такі кусочак па-расейску і ў гайнаўскім амфітэатры стала неяк свойска. У далейшым на эстрадзе выступілі калектывы з Беласточчыны: «Чыжавяне» з Чыжоў, калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, «Цаглінкі» са Старога Ляўкова, «Каліна» з Дашоў ды хор Гайнаўскага дома культуры - самы вялікі калектыў, слава пра які выйшла далёка паза межы нашага рэгіёна.

У час «Беларускага фэстына» праходзіў таксама кірмаш, на якім можна было набыць беларускія выданні, адбывалася латарэя - былі разыграны ўзнагароды, праходзіў збор грошай на пабудову Беларускага музея. На фэстыне свае кніжкі падпісвалі «белавежцы». Прыгожае надвор'е, пры якім фэстын пачаўся, пад канец сапсавалася - у мікрафонах акрамя спеваў гудзеў вецер, а выступ гайнаўскага хору прайшоў ужо ў дажджы. Але ўсё гэта, думаю, не сапсавала агульнага настрою і добрай забавы гайнаўскай публіцы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
Фота аўтара

# СВЯТА Ў БЕЛЬСКУ

26 ліпеня праводзілася ў Бельску Свята беларускай песні. І хаця надвор'е не дазволіла на канцэрт у парку, і на лозунгу над сцэнай Дома культуры песня была «белерускай», усе, каму давялося трапіць на свята, думаю, былі вельмі задаволеныя.

Свята беларускай песні адкрыў Васіль Ляшчынскі, педагог-палітык, а вёў Андрэй Сцепанюк, педагог-паэт. Прысутнічалі шаноўныя госці - бурмістр Казімеж Ляшчынскі, старшыня літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Як Чыквін, намеснік старшыні ГП БГКТ Ян Сычэўскі. Спонсарамі свята песні былі фірмы: «Agromet Tor» (прадукцыя сельскагаспадарчых машын і прылад), «Amega» (між іншым, пакупка і продаж плёнаў зямлі), Cech Rzemiosł Różnych, «Saft» (прадукцыя напіткаў, між іншымі «Hook»), будаўнічыя фірмы «Polbud» і «Unibud», страхавая фірма «Westa», рэстаран і гатэль «Unibus», адвакацкая канцылярыя «Advokat» і Гарадская ўправа Бельска.

Выступіла шэсць гуртоў, у тым ліку тры з Беларусі. Пачала віцебская «Грамада», прыемна здзівіла песняй-гімнам на музыку Генадзя Шэмета, адпетай цэлым гуртом на галасы. «Грамадоўцы» заспявалі пару песень з новага альбома ("Грамада 5"; ужо паявіўся на Беласточчыне) і прыгадалі ўжо вядомыя. Толькі хлопцы разахвоцілі слухачоў, а на сцэну ўвайшла бельская «Маланка» пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука (Лявон Кудзін на гэты канцэрт спецыяльна прыехаў з Варшавы). А мы, «ніўцы», вельмі рады, што ў «Маланцы» спявала і вельмі прыгожа выглядала (як і цэлы калектыў) супрацоўніца «Нівы» Яланта Панфілюк.

З вялікай радасцю спявання і жыцця ды з цікавай праграмай выступіў хор БГКТ з Беластока пад кіраўніцтвам Віктара Маланчыка, разам з ім - Ала Дубец з Санока. У выкананні Алы мы пачулі вядомую на Беларусі песню Л. Пранчака і З. Яўтуховіча «Даставай, Язэп, гармонік»; Ала ўпамянула і Сцяпана Копу ("Даставай, Сцяпан, гармонік!"), які так многа дау для беларускай песні на Беласточчыне.

З бельскімі «Васілёчкамі» супрацоўнічае ансамбль народнай музыкі «Паазер'е» з Пастава на Браслаўшчыне пад кіраўніцтвам Анатоля Собаля. Ён ужо вядомы ў Бельску і яшчэ раз быў прыняты вельмі цёпла.

На сцэну вядучы запрасіў мастака Лёніка Тарасэвіча, які ўжо не раз у Бельску быў, але ніколі не даваллося яму выступаць так афіцыйна і пад гальштукам у пурпуровыя ружы.

Лёнік перадаў слухачам прывітанне ад солтыса Валілаў, жыхароў Валілаў і Случанкі, жыхароў і дзеячоў БДА з Гарадка і іншых, з кім яму па дарозе ў вялікі свет. Расказаў, дзе выстаўляюцца і будуць паказаны яго карціны: практычна на ўсіх кантынентах ведаюць нашага чалавека з Валілаў.

Некалькі разоў прасілі на сцэну Алеся Камоцкага. Зала, распаленая пасля жвавых народных песень, сцішана заслухалася ў песні барда, поўныя роздумаў над жыццём, чалавекам, мастацтвам.

Неўзабаве трыццацігоддзе ад дня паўстання будуць святкаваць «Васілёчкі». Сёння яны выступілі пасля перапынку ў дзейнасці, пад кіраўніцтвам Аліны Нігярэвіч. Выступленне вельмі прыгожае, «Васілёчкі» быццам буйнейшыя, спелыя, вельмі спадабаліся публіцы, аб чым сведчылі бурныя воплескі.

«Ой, будзе забава!» - аб'явіў вядучы. І праўда - на сцэне паявілася «Забава» з Вілейкі - каляровая, вясёлая, спеўная. Той, хто не пабачыў «Забавы» ні ў Бельску, ні ў Беластоку - няхай шкадуе і на другі раз не праваронiць аб'яў аб іх /і не толькі іх/ канцэртах.

На заканчэнне зноў выступіла «Грамада» з песнямі з новага альбома (шостага), прыгадала таксама славутыя «Гэй, Марыська, чычэры», «Кухарку» і іншыя. На жаль, канцэрт трэба было канчаць. Дождж сціх, у парку пачалі збірацца бяльчане, якія не ведалі, што пад час навальніцы імпрэза адбылася ў Доме культуры. Для іх, пакрыўджаных надвор'ем, «Грамада» спецыяльна выступіць яшчэ раз у «ракавіне» ў парку ў нядзелю, 2 жніўня, а 18 гадзіне.

**МІРА ЛУКША**

# ІКОНЫ Ў МУЗЕІ ВОЙСКА

На працягу двух месяцаў - ад паловы чэрвеня да 11 жніўня - у беластоцкім Музеі войска можна было паглядзець цікавую выстаўку іконаў. «Гэта толькі на першы погляд можа здавацца дзіўным, - кажа Алег Латышонак, які працуе ў Музеі войска, - што выстаўку іконаў наладзіла якраз наша ўстанова. Але, калі глянуць на гісторыю, дык ікона была неадлучным спадарожнікам, апекуном рускіх войскаў. Ды і шырэй, па ўсёй праваслаўнай зямлі не збіраліся ў паход без яе».

Гэтая выстаўка была магчымая дзякуючы падпісанню дамовы паміж Музеем войска ў Беластоку і Краязнаўчым музеем у Бярэсці аб супрацоўніцтве і абмене экспазіцыямі. Іконы, якія паказваліся ў Беластоку, з'яўляюцца якраз уласнасцю берасцейскага Краязнаўчага музея. У далейшым плане прадбачваецца ў Беластоку выстаўка зброі з Бярэсця.

У Музеі войска экспанаваліся 110 іконаў з XVIII і XIX ст.ст. У большасці яны з Расіі, з розных гарадоў, з розных мастацкіх школ. А апынуліся ўсе ў адным месцы дзякуючы берасцейскім мытнікам, якія не дазволілі вывезці іх за мяжу былога Савецкага Саюза. Усе гэтыя іконы былі забраны ад кантрабандыстаў і перададзены Краязнаўчаму музею. У Беластоку паказвалася толькі невялічкая частка іконаў, якія такім спосабам апынуліся ў берасцейскім музеі. Там іх столькі, што не змяшчаюцца ўжо ў выставачных залах і на складах. Апошнім часам частка іх трапляе назад у цэрквы, якія адбудоўваюцца і адналяюцца вернікамі.

У Музеі войска іконы былі паказаны тэматычна. Побач віселі выявы тых самых святых, толькі з розных месцаў, рознага часу. Можна было пабачыць эвалюцыю іконы ад чыста сімвалічнага прадстаўлення постацяў у бок рэалізму, у бок выкарыстання дасягненняў заходнееўрапейскага выяўленчага мастацтва.

На гэтай выстаўцы асабліва многа было іконаў з багатым аздабленнем. На вылучэнне заслугоўваюць майстры, якія выконвалі срэбныя і пазалочаныя рызы на іконах. Вельмі цікава зроблены падарожныя іконкі, кавалья, якія складаюцца, быццам невялікія кніжачкі.

Наогул гэтая выстаўка адзначалася не так высокамастацкай якасцю роспісу, як майстэрствам іх афармлення, прафесіяналізмам рамеснікаў.

**ак**

рэдактарам быў Хведар Ільяшэвіч. Як заўсёды, паўстаючыя ў такіх умовах газеты пісалі пра канец нядобрай эпохі ў жыцці народа і пачатак новай шчаслівай будучыні. Газета падкрэслівала, што неўзабаве ўсе беларускія землі будуць з'яднаныя.

19 кастрычніка 1941 г. Гітлер далучыў Беласточчыну да Усходняй Прусіі. „Беластоцкая акруга" сталася кавалкам нямецкай дзяржавы. Тыя з беларускіх палітыкаў, якія паверылі немцам і лічылі на іх дапамогу ў адбудове сваёй дзяржавы ў этнічных межах, перажылі шок. Некалькі лідэраў нацыянальнага руху пакінула нямецкую арыентацыю і перайшло да канспіратыўнай працы.

У Беластоку 21 ліпеня 1941 г. немцы назначылі першага бурмістра, вядомага беларускага дзеяча Васіля Лукашыка. Лукашык, аднак, з невядомых бліжэй прычынаў быў прымушаны адыйсці з гэтага паста. У той самы час новы магістрат горада Беластока вярнуў большасці вуліц назвы з царскага перыяду (да 1914 г.). У жніўні г.г. пачаў у Беластоку рэгістравацца Беларускі нацыянальны камітэт.

Узнікненне беларускіх камітэтаў наступіла ўжо ў пачатку вайны. Стваралі іх некамуністычныя палітыкі, якія ўцяклі перад бальшавікамі з Заходняй Беларусі. Спачатку былі гэта камітэты самапомачы. Галоўны камітэт існаваў у Берліне, а ў ліпені 1940 г. яго філіялы ўжо дзейнічалі ў Познані, Лодзі, Торуні, Кракаве, Варшаве, Мюнхене, Празе, Белай-Падляшскай. Спачатку іх галоўнай мэтай была ўсебаковая дапамога беларускім эмігрантам у нямецкай зоне ўплываў. Ад пачатку 1941 г. структуры камітэтаў выкарыстоўваліся нямецкай разведкай. У чэрвені 1941 г. паўсталі ўжо беларускія палітычныя арганізацыі, напрыклад, Беларускі нацыянальны цэнтр, і камітэты маглі заняцца працай, дзеля якой былі створаны.

У спіску варшаўскага камітэта віднела некалькі тысяч членаў, з таго праўдападобна толькі 30 % складалі беларусы. Прысутнасць палякаў у гэтым камітэце вынікала з таго факту, што яго членам немцы давалі лепшыя талоны на спажывецкія прадукты.

Беларускі нацыянальны камітэт у Беластоку арганізаваў інжынер Часлаў Ханяўка, супрацоўнік Мікалая Шчорса — старшыні Камітэта ў Генеральным Губернатарстве. Ханяўка кіраваў беластоцкім Камітэтам амаль да канца 1941 г. Камітэт пачынаў працу ад рэгістрацыі беларускіх сцэнічных артыстаў і ўдзельнікаў харавых калектываў. Спачатку яго дзейнасць абмяжоўвалася да арганізацыі сходаў і канцэртаў. Тэатр і хор, арганізаваныя Камітэтам, выступалі амаль у кожнай большай вёсцы на ўсходняй Беласточчыне.

У снежні 1941 г. адбыліся перавыбары ўладаў Камітэта. Старшынёю стаў інжынер Уладзіслаў Тамашчык, а ў кіраўніцтве апынуліся вядомыя дзеячы: В. Мілёнькіна, В. Аляксюк, Х. Ільяшэвіч, М. Чарнэцкі, Э. Валанцэй, В. Маркевічанка, П. Барташэвіч, Ст. Пяткевіч і І. Гелда. Новае кіраўніцтва пашырыла дзейнасць Камітэта: арганізавала кравецкі і шавецкі курсы, гандлёвыя кааператывы, дзіцячы садзік і пачатковую школу. Ад пачатку 1942 г. безупынна праводзіўся курс беларускай і нямецкай моў. Прэсавы орган беластоцкага Камітэта „Новая дарога" звяртаў увагу на тое, што найчасцей паміж немцамі і беларусамі стаіць польскі ўраднік. „Мала маем людзей, якія добра валодаюць нямецкай мовай, — пісала „Новая дарога". — Не можам раўняцца з палякамі, якія 20 гадоў мелі сваю дзяржаву і доступ да школы. У нас ёсць толькі добрая воля і ахвота да працы".

*(працяг будзе)*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## У СЕМЯНОЎЦЫ...

... непадалёку чыгуначнага пераезду адгарадзілі адмысловым жалезным плотам палетак. На ім будуць ставіць палаткі чыгуначнікі, якія прыедуць на летні адпачынак на Семяноўскае вадасховішча.

... кожны чацвер прыязджае працаўнік бельскага «Гербаполю» і скупляе лекавыя зёлкі. У гэтым годзе больш людзей займаецца збіраннем зёлак: з-за засухі амаль увогуле няма грыбоў, а многія беспрацоўныя шукаюць розных спосабаў заробку.

**АЎРОРА**

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**14. Дыферэнцыяцыя лексікі паводле сферы яе выкарыстання — працяг.**

Не ўсе дыялектызмы маюць лексічныя эквіваленты ў літаратурнай мове. Вялікая колькасць дыялектных назваў розных дэсігнатаў у літаратурнай мове выражаецца пры дапамозе словазлучэнняў, неаднакратна вельмі разбудаваных. Выдзяляецца сярод іх група этнаграфічных дыялектызмаў, звязаных з матэрыяльнай і духоўнай культурай розных рэгіёнаў Беларусі. Гэта назвы:

— частак будынкаў: *ашэстак* — жэрдачка пад столлю ў сялянскіх хатах, на якую што-небудзь вешалі, *прычолак* — скат чатырохскатнай страхі над папярэчнай сцяной;

— частак сельскай гаспадаркі: *тырла* - месца на пашы, дзе стаяла жывёла ў час гарачыні або ноччу;

— сельскагаспадарчых прадметаў і іх частак: *кука* — вялікі драўляны малаток рознай формы і рознага прызначэння, *рэхва* — жалезны абруч, які наганяўся на драўляную калодку кола;
— пасуды: *жлукта* — пасудзіна для запарвання бялізны, выдзеўбаная ў форме кадушкі з драўлянай калоды, *суды* — два вядры (звычайна з вадой);

— страў: *путра* — кіслая мучная страва тыпу саладухі, *сачэнь* — выраб з кіслага або прэснага цеста ў выглядзе тоўстага бліна без начынкі;

— вопраткі і іншых палатняных вырабаў: *латушка* — жаночая світка, *шабета* — сумка, якую насілі на поясе;

— вераванняў і абрадаў: *валатоўка* — курган, у якім пахаваны легендарныя асілкі-волаты;

— прадметаў гульняў: *лядзянка* — дошка або скрынка з абледзянелым дном для катання зімой з горак;

— даўжыні: *сценка* — мера палатна даўжынёй на сцяну, на якой снавалі пражу.

Зразумела, не ўсе дыялектызмы, якія не маюць эквівалентаў у літаратурнай мове, з'яўляюцца этнаграфічнымі дыялектызмамі. Ёсць такія дыялектызмы, якія абазначаюць:

— чалавека: *кашар* — той, хто пляце кашы, *пакідзішча* — той (тая), каго пакінулі, з кім рассталіся назаўсёды;

— іншыя жывыя істоты: *аблетак* — двухгадовая жывёліна, *аўдотка* — дробная плотка;

— расліны і іх часткі: *віша* — трава, якая асталася на зіму не скошанай, *саджонік* — саджаны лес;

— прастору: *іржавінне* — балота з іржавай вадой, *лабяк* — адкрытае ўзвышанае месца;

— атмасферныя з'явы: *віскуцень* — віскліва, пранізлівы вецер, *галашчок* — вялікі мароз з ветрам (звычайна ў пачатку зімы да выпадзення снегу);

— дзеянні: *парукацца* — павітацца (развітацца) за рукі, *ценяваць* — ісці напрасткі;

— якасць: *радабоддзе* — 1) пра рэдкія пасевы, зарасніку, 2) пра рэдка сатканую ці звязаную рэч, *рэдзіва* — што-небудзь рэдкае;

— колькасць: *настрамак* -1) пярэбірак сена, саломы і пад., 2) невялікі воз сена, саломы і пад., *ручайка* — жменя лёну (валакна).

Большасць з названых дыялектызмаў вельмі вобразная, з празрыстай этымалогіяй. У сітуацыі, калі ў літаратурнай мове адсутнічаюць лексемы-назвы розных прадметаў ці паняццяў, яны могуць стацца крыніцай папаўнення слоўнікавага складу мовы новымі лексічнымі адзінкамі з намінатыўным значэннем. У сувязі з гэтым іх значэнне ў развіцці мовы, праўдападобна, большае, чым значэнне тых лексічных дыялектызмаў, якія з'яўляюцца сінонімамі існуючых ужо ў літаратурнай мове назваў дэсігнатаў і паняццяў, ці значэнне семантычных дыялектызмаў, якія развіваюць лексічную многазначнасць, узбагачаючы лексемы літаратурнае мовы новымі значэннямі.

---

Не ведаю, Астроне, ці гэта ноч перад зменай пагоды была такая неспакойная, ці проста тыя мае макабрычныя сны нешта вельмі кепскае мне прадвяшчаюць. Дапамажы!

Сніцца мне, быццам знаходжуся ў нейкім драўляным, але вельмі высокім доме, на нейкім там паверсе. Не ведаю, чый гэта дом, але быццам бы гэта нейкая дача, а я прыехала сюды. Але ж бачу, што ў мяне ўкралі чамадан. Ён стаіць, але я ведаю, што ў сярэдзіне ён пусты.

Пасля бачу чорнага ката. Я бяру яго ў рукі і нажом адразаю яму галаву. Нож быў вельмі востры, я трымаю ката ў левай руцэ, а правай секанула яму па шыі, так галава яго і адляцела, быццам скіба хлеба!

Я пачынаю выціраць акрываўлены нож, бо баюся, што мяне абвінавацяць у забойстве, але мне гэта не ўдаецца. Кроў усё вылазіць: то я бачу, што мае рукі недакладна выцерты, то выціраю нож аб свой кашалёк і там застаюцца плямы. Я пачынаю разумець, што давядзецца мне адказваць за злачынства.

**Ядзя**

Ядзя! Можа, сны твае і былі звязаны з нейкім непакоем, які агортвае чалавека пры рэзкіх зменах пагоды. Але магчыма і іншае талкаванне тваіх сноў. Тая пакража, напрыклад, можа абазначаць для цябе небяспеку, варожасць, а нават страту нейкую. Тое, што ты адрэзала кату галаву, можа абазначаць для цябе нейкі сум, а звязаны менавіта з катом — фальшывымі людзьмі, якія хочуць падлажыць табе свінню. У такой сітуацыі мо і добра, што ты расправілася з ім, але тыя крывавыя сляды абазначаюць, што будзе нейкі смурод.

**АСТРОН**

---

**Чытаць трэба ад маленства.** Калі ваша дзіця не хоча чытаць школьнай праграмнай лектуры, дык купіце штомесячнік „Прыгода з маляванкай". Педагогі-практыкі пацвярджаюць, што гэты часопіс дае не толькі пацеху, але і вучыць. А найбольшай яго вартасцю з'яўляецца тое, што заахвочвае ён дзяцей да чытання. Не верыце — праверце самі. Адначасова гуляючы і вучачыся, можаце выйграць вартасныя і прыдатныя ўзнагароды. Хопіць толькі прысляць добры адказ на змешчаныя там пытанні і мець шчасце ў выйгрышы. Часопіс каштуе ўсяго толькі 5.500 зл. Галоўная ўзнагарода — веласіпед!




---

### СЭРЦА КРЫВАВІЦЬ І ГАЛАВА ТРАШЧЫЦЬ

Васіль Быкаў належыць да плеяды сусветных пісьменнікаў, якім удаецца парушыць сэрцы, розумы і сумленні чытачоў. Кніжкі В. Быкава пераважна кранаюць тэматыку II сусветнай вайны, а яна шырокая і глыбокая, аб горы, голадзе, крыві, ранах, смерці, слёзах, дыме і агні, аб няшчасці мільёнаў людзей нашай прыгожай, але і беднай планеты. Таму беднай, што ўсё тое, што перажываюць людзі, у большасці здараецца ад... людзей. Сама прырода таксама з намі абыходзіцца груба: землятрусы, засухі, паводкі і іншыя стыхійныя сілы. Аднак адукаваныя, разумныя людзі — здавалася б, добрыя — з нічым не лічацца, каб адно толькі вынішчыць як мага больш людзей, якіх завуць сваімі ворагамі, дзеля эгаістычных мэтаў аднаго чалавека, ці групкі „высока" пастаўленых людзей. У наш час былі імі Сталін і Гітлер — найгоршыя тыраны, якія рэзалі і гнаілі сваіх і чужых нявінных людзей. Нават за апавяданне анекдотаў адзін і другі гнаў людзей, як ворагаў, у канцлагеры на мардэрчую працу, якая пераважна канчалася смерцю скуры і касцей людзей, сэрцы якіх білі да канца, а розум ведаў, што гіне па загаду, нявінным.

Чытаючы ваенную і пасляваенную літаратуру розных пісьменнікаў, гледзячы кінакарціны, я асабіста ніколі не верыў, што будзе такі фільм, або кніга, якія перададуць усё бязмежжа чалавечага гора і трагедыі. Аднак, калі мне ўдалося прачытаць чарговую кніжку Васіля Быкава „У ТУМАНЕ"* , я астаюся пад уражаннем, што Яму і толькі Яму — Васілю Быкаву удалося зрабіць гэта. На псіхічных і фізічных перажываннях такіх герояў, як Сушчэня, Насця, Юрка, Кротаў, ці нават Бурава з Войцікам В. Быкаў паказаў гора ўсяго тадышняга Савецкага Саюза і пераканаў мяне, што можна знайсці спосаб, каб у адной кніжцы падрабязна перадаць усе перажыванні чалавека не толькі ў акопах.

Прачытаў я гэтую кніжку і мне як ніколі захацелася, каб больш не было чалавечай трагедыі, выкліканай вайной. На жаль 1992 годзе лісцца кроў і гінуць людзі з рук сваіх братоў.

**Васіль Петручук**

* *Васіль Быкаў, У тумане, Мастацкая літаратура. 1989, 382 стар.*

---

# ТАКІ НАРОД

Нядаўна, будучы па службовай справе ў Гмінай управе ў Дубічах-Царкоўных, сустрэўся я на калідоры з войтам сп. Паўлоўскім і кажу: „Пане войт, час ужо, каб памяняць у нас дзве назвы вуліц, бо яны ўжо страцілі свой палітычна-гістарычны сэнс, і трэба, каб яны мелі тыпова беларускі характар. Маем жа сваіх патронаў і герояў..." — Так, гэта слушна, і я цалкавіта з вамі пагаджаюся, — адказаў войт, — але гэтую справу можа вырашыць толькі рада, вядома, разам з мясцовымі жыхарамі.

Справа датычыць дзвюх вуліц: адна з іх — вул. 40-годдзя ПНР (PRL), а другая — вул. Чырвонай Арміі (пры ёй стаіць царква і школа). Што ж, як ведаем, Народная Польшча ўжо сваё аджыла, цяпер маем іншую Польшчу. Ці тая была лепшая, ці горшая — не мне вырашаць, але хіба не будзем яе кананізаваць. Што тычыцца вуліцы Чырвонай Арміі, дык я ўжо пісаў у „Ніве" пра своеасаблівы рэзерв Чырвонай Арміі ў Дубічах-Царкоўных — пра Паўстанца і яго антырэлігійную групу пры саветах. Ці сёння можам сабе дазволіць, каб тое месца, дзе стаіць царква, ушаноўвала памяць ворагаў рэлігіі?

Нашай размове з войтам прыслухоўваўся адзін малады селянін. Яго каментарый да пачутага быў наступны: „Для мяне дык усе вуліцы ў Дубічах могуць называцца Засранымі, што мне там нейкія беларускія назвы, сраў я на іх..."

Што ж, з такім чалавекам спрачацца няма сэнсу, але самае страшнае тут у тым, што ён у сваіх поглядах не з'яўляецца адзіночкай — большменш такі погляд на беларушчыну мае большасць нашых людзей на Беласточчыне. Бо калі б было інакш, то ці ў мінулагодніх выбарах у Сейм і Сенат беларусы галасавалі б амаль у 100% на В. Цімашэвіча, посткамуніста і паляка?

А нашы радныя ў мясцовых самаўрадах? Такія ж самыя „патрыёты", як згаданы мною малады чалавек. Таму нашым вуліцам суджана і далей мець чужыя назвы, часта нават такія, якія заключаюць у сабе непрыхаваны здзек над беларушчынай.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЯК ЮРКА АД ЛЯНОТЫ ПАЗБАВІЎСЯ

Юрка быў вялікі лянотнік. Мабыць, самы вялікі ў свеце. Бо ён нават ленаваўся у дзіцячы садок хадзіць.

Аднойчы тата некуды паехаў і прывёз дадому Юркаву бабулю. Назаўтра хлопчык прачнуўся, а мама з татам ужо на працу пайшлі. Ён паваляўся-паваляўся трошачкі ў ложку, бачыць, а яго ніхто і не думае прасіць уставаць. Тады ён узяў і сам падняўся. А бабуля тут як тут.

- Прачнуўся? Вось і добра. Зараз будзем снедаць. Толькі спачатку засцялі свой ложак.

Юрка здзівіўся. Яшчэ ніколі ніхто яго не прымушаў засцілаць свой ложак.

- А я не ўмею, - прабурчаў хлопчык.

- Не ўмееш? - цяпер ужо здзівілася бабуля.

- Ну, нічога. Я цябе пасля навучу. А зараз давай паснедаем, я супчык зварыла.

- Я не хачу супу! - прабурчаў Юрка.

- То мо табе бульбы падсмажыць? - спытала бабуля.

- І бульбы не хачу!

- А што ж ты хочаш?

- Цукерку!

- Цукерак у мяне няма, - сказала бабуля.

- Тады я не буду есці!

- Ну, што ж, не хочаш дык не хочаш. Але запомні: той, хто лянуецца і нічога не есць, становіцца вельмі слабым чалавекам.

Не паверыў Юрка бабулі і, пакрыўджаны, што яму не далі ніякіх прысмакаў, павярнуўся і пабег на вуліцу.

А на вуліцы якраз падняўся вецер. Падхапіў ён Юрку, узняў над вёскай і панёс. Ведама, столькі не есці і ўсяго ленавацца! Вось і стаў хлопчык лёгкім і кволенькім, як пушынка.

Нёс яго вецер, нёс і апусціў прама на лясную палянку. Сядзіць Юрка на палянцы і ад страху ні крычаць, ні плакаць не можа. А ў кустах нешта як затрашчыць! А на дрэве нехта як запішчыць! Заплакаў Юрка.

Прабягаў недалёка заяц, пачуў ён, што нехта плача, і спыніўся. Прыгледзеўся - хлопчык сядзіць. Падышоў заяц да хлопчыка.

*Працяг на стар. 10*



Над Свіцяззю. Фота М. Лукшы

# ЛАСКА

Прыгожае імя далі нашы прашчуры гэтаму малому звярку. Дый сам ён прыгожы: спінка буравата-карычневая, бакі і чэраўца белыя. А ўзімку ён увесь становіцца белы. Людзі нават гульню ў гонар ласкі прыдумалі. Цікавую гульню, вясёлую. Хто-небудзь з дарослых прыгорне хлапчука ці дзяўчынку да сябе і пытае:

- Ласка, ласка,
Дзе была,
Што ты ела,
Што піла?

І сам жа дзядзька-жартаўнік адказвае за ласку:

- Ела я травіцу,
А піла вадзіцу.
Тут мох,
Тут балота,
Тут пень,
Тут калода,
Тут глыбокая крыніца,
У ёй сцюдзёная вадзіца...
Дай напіцца!
Дай напіцца!..

Хацеў бы, а не ўцячэш ад дужых рук, што цябе казычуць. Пакуль не папросішся ці не абароняць тата або мама.

Так і ад ласкі - ніводная мыш не ўцячэ, калі трапіць ёй на вочы. Самая глыбокая нара не ўратуе шэрую, бо звярок аднолькава добра палюе і на зямлі, і ў норах. Адольвае ласка і агідных пацукоў, хоць сама нярэдка меншая за гэтых ненажэрных шкоднікаў. Таму людзі радаваліся, калі такі нястомны паляўнічы сяліўся каля іхняга жытла. Сваё гняздо звярок будуе і ў дуплах старадрэвін, і ў чужых норах , і нават, здараецца, пад падлогаю ў хаце. Аблюбаванае месца старанна высцілае сухім сенам ці саломаю, мышынымі шкуркамі, птушынымі пёркамі. Цёпла, утульна ў такім гняздзе дзіцянятам ласкі. І корму заўсёды хапае, бо адна ласка за ноч знішчае шмат мышэй і пацукоў. Яна так зацята палюе на іх, аж часам пудзіць свойскую жывёлу. Пачуе гаспадар непарадак у хляве, зазірне праз дзверы з ліхтаром - ніякай шкоды няма. Падумае: «Пэўна дзядок-дамавік ці дзядок-гуменнік сваволіў...» А назаўтра, калі выпадала вольная ад працы хвіліна, расказаў дзецям, што

*Працяг на стар. 10*

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ

## БУЛЬ-БУЛЬ-СУП

Я на кухні
Не гуляю -
За плітою
Наглядаю.
- Ой, вада кіпіць, булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб сцішэла -
Што ёй даць?
- Круп сыпні,
Парэж бульбінку -
Вар суцішыцца ў хвілінку, -
Падказала мне бабуля.
Я сыпнула.
«Буль-буль-буля... -
Булькатнуў
Удзячна
Вар. -
Толькі рукі не апар!.."
Я на кухні
Не гуляю -
За каструляй
Наглядаю.
- Ой, вада ізноў булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб сцішэла -
Што ёй даць?
- Кінь цыбулінку яшчэ -
І тады вар не ўцячэ, -
Падказала мне бабуля...
Зноў удзячна:
«Буль-буль-буля... -
Булькатнуў
Вірліва
Вар. -
Што ж, далей
смялей кухар!.."
Я на кухні
Нездарма -
Мне спакою ўжо
Няма.
Чую:
Вар мой зноў булькоча.
Што ён хоча?
Што ён хоча?
- Папярэдзіў, мусіць, нас -
Кідаць ліст лаўровы час! -
Падышла бліжэй бабуля,
Ліст узяўшы.
«Буль-буль-буля... -
Булькатнуў
Духмяна
Вар. -
Паглядзі, ці ёсць навар..."
Я заглядваю ў каструлю -
Бачу
Бульбу,
Ліст,
Цыбулю.
«Дзе ж навар?..
Які навар?..
Ты дзівак, напэўна,
Вар?.."
„Гэтак думаеш?
Няўжо?
Я ж не вар -
Буль-с-суп я ўжо!
І табе я
Шчыра ўдзячны:
Пэўна, буду
Вельмі смачны!.."





*Возера Горбач на Імшары за Міхаловам.* **Фота В. Рудчыка**




Маленькая Волечка атрымала за хатнюю працу па арыфметыцы двойку. Прыйшоўшы дадому, яна пацяшае сваю маму:

- Не хвалюйся, мама, у нашым класе не ты адна атрымала дрэнную адзнаку.

xxx

Міколка збіраецца ў школу. Маці папярэджвае яго:

- Калі прынясеш сёння «тройку», то будзеш тры разы біты!

- Тады я прынясу «двойку»!

xxx

Малыя дзеці прыглядаюцца вясельным гасцям. Асаблівую ўвагу звяртаюць на выдэкальтаваных жанчын.

- Цешуся, што я не жанчына, - гаворыць адзін падшывалец.

- Чаму? - здзіўляецца другі.

- Падумай толькі, як многа шыі трэба мыць!

xxx

- Калі пякуць чорны хлеб - і дым чорны, а калі белы, то і дым белы!

xxx

Звоніць тэлефон. Трубку бярэ дзіця.

- Ці дома татка? - пытаюцца.

- Прыкра мне, але няма.

- А чаму прыкра?

- Бо не люблю хлусіць.

xxx

На ўроку фізікі настаўнік пытаецца ў вучня:

- Што ты будзеш рабіць, калі перагарыць электрычны прас?

- Занясу ў майстэрню.

xxx

Сям'я ўчора ўвечары была ў гасцях і раніцай за снеданнем абмяркоўвае ўсіх бачаных там. Маленькая Ася гуляе ў кутку і раптам пытае:

- Мама, апрача вас, добрых людзей больш няма?

xxx

- За што выгнаў Бог Адама і Еву з рая? - пытаецца ў школе вучня бацюшка.

- За тое, - кажа вучань, - што з'елі зялёнае яблыка з дрэва.

xxx

- Хто з вас старэйшы - ты, ці твой брат? - спыталі ў маленькага Янкі.

- У мінулым годзе мама казала, што брат на год старэйшы за мяне. Так што сёлета я з ім зраўняюся!

xxx

Настаўнік тлумачыць на ўроку:

- Усё, што нас акружае, з'яўляецца матэрыяй. Ёсць такія прадметы, якія мы бачым, а ёсць і такія, якіх не бачна. Вось ты, Юрка, назаві такую матэрыю, якую мы не бачым.

- Напэўна, гэта падкладка ў кішэні, - нерашуча кажа вучань.

xxx

- Мама, я не хачу быць помнікам!
- Чаму?
- Таму, што трэба ўвесь час стаяць...

xxx

- Што ж ты чытаеш, сынок?.. А, аб выхоўванні дзяцей?..

- Так, мамачка! Хачу праверыць, ці правільна мяне выхоўваеце.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**



# ЯК ЮРКА АД ЛЯНОТЫ...

*Працяг са стар. 9*

- Чаго ты плачаш? - пытае.

Усё расказаў яму Юрка.

- Не плач, - пачаў супакойваць заяц. - Ідзі за мной.

Ідуць яны, ідуць, а Юрка ўсё адстае ды адстае. Зусім саслабеў. Давялося некалькі разоў спыняцца адпачываць.

Нарэшце выйшлі на ўзлесак.

- Ну, вунь твая вёска, - паказаў лапкай заяц. - А мне назад трэба, снедаць пара.

Шмыгануў у кусты - быццам і не было яго.

Убачыў Юрка сваю хату на ўскрайку вёскі, узрадаваўся. Нават сіл крышачку прыбавілася. Прыйшоў дамоў і як закрычыць:

- Бабуля, я есці хачу!

З таго часу Юрка заўсёды слухаецца старэйшых. І ложак сам засцілае, і яшчэ шмат чаго сам робіць.

А пра тую гісторыю з ветрам і зайцам нікому не расказвае. Сорамна.

**АЛЕСЬ БАДАК**



# Блакітная хмарка

Юру купілі новую машыну. Яна вельмі прыгожая: вялікая, з ярка-чырвонай кабінай і васільковым кузавам. У ёй можна вазіць пясок, каменьчыкі, забаўкі, а калі хочаш, і сам садзіся ў кузаў, кацися з горкі.

У двары Юру адразу абступілі дзеці, падбеглі да новай машыны.

- Якая прыгожая! Давайце пакатаем у ёй лялек! - прапанавала Наташа.

- Яшчэ што выдумаеш, - запярэчыў Юра.

Ён адпіхнуў Гошу, які нахіліўся над машынай і хацеў сесці ў кузаў.

- Нікому не дам. Гэта мне купілі.

- Правільна, Юра, - ціхенька сказаў Толік. - Нікому не давай, толькі мне. А я табе дам свой паравозік...

- Не трэба мне твой паравозік, ён паламаны... - адказаў Юра.

- А цукерку хочаш? - спытаў Гоша.

- І цукеркі не хачу, - буркнуў Юра.

- Ведаеш, Юра, калі ты мне дасі пагуляць са сваёй машынай, то я папрашу тату, каб ён пакатаў нас на спраўднай, - сказаў Косцік.

Юра амаль ужо згадзіўся, але, калі Косцік дакрануўся да машыны, перадумаў:

- Хітранькі які! Няхай твой тата спачатку мяне пакатае...

У гэты момант з пад'езда выскачыў Жэнька:

- Глядзіце, які ў мяне шар!

Усе павярнуліся да Жэнькі.

- Падумаеш, шар! У мяне дома колькі хочаш такіх шароў: і чырвоных, і зялёных, і сініх. А вось такой машыны, як у мяне, ні ў кога няма, - сказаў Юра.

Але дзеці ўжо не слухалі Юру: яны пабеглі да Жэнькі. З шумам і радасным гоманам пачалі падкідваць і лавіць шар. Блакітнай хмаркай ён гайдаўся над галовамі дзяцей.

**ЛЮДМІЛА ВОЛЬСКАЯ**





*У жытку.* **Фота М. Лукшы**

# КУРЁЗЫ * СЕНСАЦЫІ

## УЦЁКІ ДЖОРДЖА БЛЕЙКА

У маі 1961 года ў Лондане адбыўся суд над англійскім разведчыкам Джорджам Блейкам, які на працягу 10 год працаваў у карысць савецкай разведкі. Суд вышэйшай інстанцыі прыгаварыў яго на 42 гады турэмнага зняволення.

Д. Блейк служыў у Каралеўскім ваенна-марскім флоце. Пасля другой сусветнай вайны працаваў у гандлёвым прадстаўніцтве ў Берліне і якраз тады дапамог савецкай разведцы выявіць агентаў - у суме каля 400 асоб.

22 кастрычніка 1966 года Блейк уцёк з лонданскай турмы Уромуд Скрабс, што адразу стала міжнароднай сенсацыяй. Паліцыя сачыла за ўсімі пасольствамі сацыялістычных краін, абшукала савецкія судны ў портах і пастаянна кантралявала пасажыраў у аэрапортах. Тады ўсеагульна лічылася, што такую дзёрзкую аперацыю правялі спецыяльныя аддзяленні КДБ.

... Тым часам Блейк знаходзіўся ў адным з памяшканняў, якое загадзя яму нанялі па вуліцы Шайлевэр, недалёка ... ад турмы.

У лонданскай турме Уормуд Скрабс у 1959-1966 гадах «адседжваў» кару Шон Бёрк. У верасні 1965 года аставалася яму ўсяго дзесяць месяцаў зняволення. У турме кожны дзень быў падобны да сябе як дзве кроплі вады. Ш. Бёрк рэдагаваў насценгазету «Новы гарызонт» і карыстаўся шматлікімі прывілеямі. Насіў ён на рукаве сінюю павязку і мог свабодна хадзіць па ўсёй турме, дазвалялася яму выходзіць за браму турмы па службовых справах а нават канваіраваць зняволеных. Быў ён злодзеем па «прафесіі».

Аднойчы Шон Бёрк пазнаёміўся з Д. Блейкам, пра якога даведаўся ад іншых, што яго засудзілі ажно на 42 гады турэмнага зняволення. Камера Джорджа знаходзілася на другім паверсе блока «Г» і мела яна нумар 8. За ёй быў пастаянны нагляд з боку турэмнага персаналу.

- Бывала, што калі Блейк ішоў у супольную сталовую, дык усміхаўся, - успамінае Шон. - У гэты раз ішоў ён засяроджаны, з апушчанай галавой. Адразу падышоў да мяне і глянуў мне проста ў вочы.

- Хачу з табою пагаварыць, - заявіў.

- Аб чым? - спытаў я.

- Маю для цябе прапанову, - сказаў. - Хачу, каб ты напісаў пра мяне кніжку. Я знаходжуся ў турме ўжо чацвёрты год. Дагэтуль спадзяваўся, што мяне выпусцяць, напрыклад, у рамках абмену агентаў, але нічога не атрымліваецца. Прыйшоў я да вываду, што сам павінен паклапаціцца аб тым, каб адсюль выйсці. Прашу цябе, Шон, дапамажы мне ўцячы з турмы. Мне здаецца, што толькі на цябе магу разлічваць.

- Джордж, згаджаюся, - адказаў я. Твар Блейка прасвятлеў.

Сам я так і не ведаю да канца, чаму адразу згадзіўся прыняць гэтую прапанову. Мабыць, я быў пад вялікім уражаннем. Немалую ролю адыграла велічыня кары. На маю думку, была яна бязлітасная і нялюдская.

Падчас чарговых сустрэч мы абмеркавалі падрабязна план уцёкаў. Нам была патрэбна шнураваная драбіна і грошы. За тымі апошнімі мы звярнуліся да маці Блейка. Шмат часу прысвяцілі назіранню за турэмным персаналам і асабліва за наглядчыкамі. Шмат разоў аналізавалі распарадак дня. Вялі мы зашыфраваную карэспандэнцыю. У час візіту Блейк перадаў маці палавіну фотаздымка. З другой палавінай меўся прыйсці да яе па грошы Шон.

Калі Бёрк выходзіў за браму турмы і хадзіў па гарадскіх вуліцах, ён перш за ўсё знаёміўся з акружэннем турмы. Недалёка была бальніца, крама, стаянка таксі, сцяжынка для пешаходаў, вулічная светавая сігналізацыя. Усё гэта магло б мець нейкае значэнне ў часе ўцёкаў. Бёрк купіў дакладную карту горада. Пасля цікавіўся яшчэ і тым, які вулічны рух панаваў ад шостае да сёмае гадзіны вечара. Выявілася, што найбольш людзей выходзіла на вуліцу каля сёмай, калі наведвальнікі выходзілі пасля візіту ў бальніцы. Аперацыю можна было пачынаць якраз у гэтую пару. Найцяжэй было пералезці цераз шасціметровую мураваную агароджу. Але ж для гэтага была спецыяльная лесвіца.

Як на іронію лёсу, у канцы сакавіка з турмы ўцякло некалькі асоб і то з таго самага блока «Г». Таму наглядалі за ім круглыя суткі. Блейку пашанцавала - пасля гэтага здарэння яго не перавялі ў іншую турму.

Калі Шона пасялілі ў інтэрнаце паза турмой, узнікла непрадбачаная праблема, як наладзіць сувязь з Блейкам. Для гэтага яны выкарысталі рацыю японскую /мініяцюрную радыёстанцыю/, якую загадзя купіў і прынёс Блейку Шон. Вядома ж жывем у век электронікі.

Да ўцёкаў усё было падрыхтавана, у тым ліку перапілаваны краты ў акне. Блейк чакаў таго дня, калі будзе ішоў дождж. Падчас навальніцы вартаўнік хаваўся пад дашком або сядзеў на ганку. У тым часе не мог ён наглядаць за ўсходняй сцяной будынка.

І дачакаўся тае пары. Ён уцёк з-пад стражы. Было гэта дажджлівым суботнім вечарам. Наглядальнікі з вялікім зацікаўленнем глядзелі па тэлебачанні футбольны матч. Тады Блейк выняў краты ў акне, спусціўся на дах прыбудоўкі, адтуль саскочыў на зямлю і схаваўся ў нішу першага паверху. За турэмнай агароджай ў аўтамашыне чакаў Шон Бёрк. Шон быў пакліканы пры дапамозе рацыі. Ён перакінуў вяровачныя лескі. Блейк ускараскаўся па ёй на сцяну ды саскочыў уніз, праўда, няўдала - зламаў руку. Шон уцягнуў яго ў машыну і праз 5 хвілін яны былі ў нанятай кватэры. У 9 гадзін вечара яны ўжо аглядалі па тэлебачанні перадачу аб уцёках Джорджа.

Блейка вывезлі з Вялікабрытаніі ў спецыяльным фургоне. Пасля некалькіх месяцаў ад уцёкаў Джорджа з Уормуд Скрабс яго калегі купілі самаход турысцкага варыянту са спальняй, шафай і куханькай. У шафе было зроблена «падвойнае дно», дзе схавалі Блейка. На вялікабрытанскай граніцы мытнікам не прыйшло ў галаву шукаць яго там.

Супергент Д. Блейк пражывае ў Расіі. Дагэтуль, праз 25 год, месца яго побыту трымалася ў сакрэце, а ён сам быў недасягальным для журналістаў. Неўзабаве будуць выдадзены друкам яго мемуары.

Апрацоўка
**ЯНКІ ЦЕЛУШЭЦКАГА**




**Даражэнькае Сэрцайка!**

Ты не ўяўляеш сабе, як я люблю аглядаць эратычныя сцэны ў фільмах, тыя, якія моладзь папулярна называе „момантамі”. Калі ведаю, што ў фільме ёсць такія сцэнкі, дык магу хадзіць на такі фільм па пяць разоў, і не абрыдне. Разам з героямі, якія кахаюцца на экране, перажываю іх пачуцці, а часамі да такой ступені зліваюся з імі, што мне нават здаецца, быццам усё гэта датычыцца мяне і маіх пачуццяў. Фільма магу пасля не памятаць, але дасканала, з дэталямі памятаю ўсе „моманты”, якія ў ім выступілі.

І таму я заўсёды марыла пра тое, каб агледзець дзе ў каго на відэамагнітафоне сапраўдны парнаграфічны фільм. Мае сяброўкі часта падхвальваліся, што яны дык аглядаюць сапраўдныя, моцныя фільмы, а я іх слухала, як нейкая сірата ці недаразвітая, разявіўшы рот.

Але вось на нашым пасёлку паставілі сатэлітарную антэну, дзякуючы якой цяпер можна аглядаць непасрэдна і заходняе тэлебачанне. Не было там нічога асаблівага. Але аднойчы бацькі паехалі на вяселле ў другім горадзе, узяўшы з сабой маю малую сястрычку, а я засталася ў Беластоку. Яшчэ ж былі заняткі ў школе (я ў другім класе ліцэя).

Вечарам з суботы на нядзелю я вырашыла паагладаць тэлевізар „колькі ўлезе”. Пасля поўначы, каля другой гадзіны, нейкая заходняя станцыя перадавала парнаграфічны фільм, які спачатку паказаўся мне вельмі цікавы. Я меркавала, што парнаграфічны фільм гэта такі фільм, які складаецца з адных „момантаў”, але ўсё адбываецца ў нейкіх граніцах. А тут убачыла ўсё як на далоні — голыя (а калі апранутыя, дык толькі зверху, а ніз адкрыты) людзі паказваюць усё: свой член, як укладваюць яго куды трэба жанчыне, а таксама ў рот, ды і ўсялякія іншыя фокусы.

Замест адчуваць нейкае задавальненне, мне было непрыемна, а нават праціўна. Я ніяк не магла атаясаміцца з гэтымі акцёрамі, бо ўвесь час думала: як яны гэта могуць рабіць, проста так, па заказу, пры камерах...

Ад таго часу я больш не мару пра тое, каб нешта такое глядзець. Больш для мяне гэткія фільмы не існуюць і нават не хачу слухаць сяброў і сябровак, якія яны „цуды” аглядаюць. Як ты думаеш, Сэрцайка, для каго робяцца гэтыя фільмы? Гэта ж не для нармальных людзей.

**Люся**

Люся! Відаць, што ты маладая, чыстая дзяўчына. Цябе прыцягвае ўсё, што людское, натуральнае. Зразумела, вынашэнне вельмі інтымнай сферы пачуццяў(?) на экран для ўсеагульнага агляданя не з'яўляецца справай нармальнай.

Многім людзям, якія не маюць у даны момант партнёра, гэткія фільмы дапамагаюць нешта перажыць, але мусяць гэта быць людзі, якім не каханне ў галаве, а толькі секс.

Ідэальна было б, калі б секс ішоў у пары з пачуццём. Парнаграфічны фільм гэтага запэўніць не можа.

Табе, Люся, не фільмы такія патрэбныя, а добры хлопец.

**СЭРЦАЙКА**




## ТУШАНЫЯ АГУРКІ

### З цыбуляй

На 60 дэкаў свежых агуркоў трэба ўзяць 20 дэкаў цыбулі, 3 лыжкі алею, соль, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі і кропу.

Цыбулю абабраць, нарэзаць пер'ямі, усыпаць у каструльку, дадаць алей і соль ды тушыць пад пакрыўкай. Цыбуля павінна змякнуць, нельга дапусціць да таго, каб яна падсмажылася. Агуркі тоненька абабраць, нарэзаць скрылёчкамі, укінуць у цыбулю, пасаліць. Калі стушацца, дадаць пасечаную зеляніну. Дадаць солі і перцу, крыху лімоннага соку або часнаку.

### З цыбуляй і памідорамі

Стушыць агуркі, як у папярэднім рэцэпце. У канцы тушэння дадаць густы перацёр з 30 дэкаў памідораў, а таксама 4 зубкі часнаку, расцертага з соллю. Дадаць вострай папрыкі ў парашку,

Вельмі смакуе са стравамі з мяса і рыбы.

### З зёлкамі

На паўкілаграма агуркоў трэба ўзяць 2 лыжкі алею, 20 дэкаў лісця маладой крапівы, 10 дэкаў малады лісткоў малачаю, 4 лыжкі дробна пасечаных кропу і пятрушкі, 2 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі з эстрагонам, 1 лыжку мукі, паўшклянкі салодкай смятанкі, соль, перац.

Агуркі тоненька абабраць, нарэзаць стоўбікамі. Лісткі крапівы і малачаю старанна перабраць, адкінуць галінкі, памыць, а тады палажыць у пасолены кіпецень, загатаваць, адцадзіць. Агуркі палажыць у кіпячую ваду (1/2—3/4 шклянкі), пасаліць. Накрыць і варыць мінуты 2—3. Калі агуркі пачнуць мякнуць, адцадзіць іх, спырснуць алеем. Абвараное лісце зёлкаў пасячы, дадаць да агуркоў, пасыпаць мукой, уліць смятанку, усё перамяшаць, закіпяціць. Тушыць некалькі мінут, тады зняць з агню, дадаць па смаку солі і перцу. Перамяшаць з пасечанымі лісткамі прыпраў.

Падаваць гэту страву гарачай ці халоднай, вельмі смакуе яна з яйкамі.

### Са шпінатам

Узяць 60 дэкаў большых, старэйшых агуркоў, 3 лыжкі алею, паўшклянкі перацёртага варанага шпінату, 8 лыжак пасечанага кропу з зялёнай пятрушкай, 1 лыжку мукі, паўшклянкі смятаны, соль, перац.

Абабраныя агуркі перарэзаць уздоўж напалавіну, выняць з іх насенне, тады нарэзаць стоўбікамі, палажыць у каструльку, дадаць алей, пасаліць. Тушыць пад пакрыўкай, памешваючы. У мякчэючыя агуркі дадаць працерты шпінат, пасыпаць мукой, перамяшаць са смятанай. Тушыць яшчэ хвіліну ў адкрытай каструльцы. Зняць з агню, перамяшаць з пасечанай зелянінай, дадаць солі і перцу.

**ГАСПАДЫНЯ**

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Суддзя ў дантыста:
— Палажыце правую руку на Біблію і прысягніце, што вы вырвеце зуб, і нічога больш.

* * *

Адзін марак вытатуіраваў сабе на жываце карту свету. Аднойчы ён захварэў і пайшоў да доктара.
— Дзе ў вас баліць? — спытаў лекар.
— Вось тут у верхнім цячэнні Амазонкі.

* * *

— Я змясціў у вашай газеце аб'яву аб прапажы майго сабакі, абяцаючы вялікую ўзнагароду. Ці ёсць якія-небудзь звесткі?
— Цяжка адказаць на ваша пытанне. Пасля вашай аб'явы ўсе рэдактары і рэпарцёры пабеглі шукаць сабаку.

* * *

— Што мы будзем рабіць, Герберт? — прастагнаў рэдактар. — За суткі не здарылася ніводнай скандальнай падзеі, ніводнага забойства, вялікага крадзяжу, згвалтавання. Што ж мы дадзім на першую паласу?
— Не трацьце надзеі, шэф. Што-небудзь абавязкова здарыцца. Я аптыміст і цвёрда веру ў чалавечую натуру!

* * *

Цырульнік: — На жаль, вы вельмі хутка траціце валасы, мсье. Вы што-небудзь робіце, каб захаваць іх?
Кліент: — Так, я ўжо падаў заяўку аб разводзе.

* * *

— Ты, кажуць, так і не развялася са сваім мужам? А ты ж мне казала, што паміж вамі ўсё скончана, — гаворыць сяброўка сяброўцы.
— Разумееш, мы ўжо павінны былі ісці ў суд, але напярэдадні сапсаваўся тэлевізар. Не было чаго рабіць, мы ўвесь вечар размаўлялі, і — уявi! — я выявіла, што ён вельмі цікавы чалавек!

* * *

Гандляр скардзіцца на бяссонніцу.
— А вы не прабавалі, — пытае доктар, — стары сродак: легчы ў ложак, заплюшчыць вочы, уявіць стада авечак і пастарацца іх пералічыць.
— Прабаваў, ды атрымліваецца яшчэ горш.
— Чаму?
— Пералічваю авечак, пагружаю іх у вагон, адвожу ў горад і прадаю. А потым кожную ноч мучаюся: ці не затанна іх прадаў?

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ





*– Не хвалюйцеся, гэта не ад піва, а ад палітыкі!*

# ПАДГЛЯДАЧ

Ужо каторы раз ён прыглядаўся ёй, схаваны ў кустоўях бэзу. Яна ляжала на лежаку, а яе бліскучыя, чорныя валасы пераліваліся ў сонцы. Час ад часу адкрывала яна зялёныя вочы і глядзела навокал, быццам шкадавала, што яна адна. Ён тады курчыўся ў кустах і спыняў дыханне. Хацеў быць незаўважаным, перамяніцца ў грудку зямлі... Якія ж шанцы ў яго, вылінялага бландзіна з цяжкой фігурай і выглядам парабка? Хіба ніякія. Чакаў толькі той хвіліны, калі яна прыйдзе ў агарод, каб здалёк цешыць свой зрок яе прывабнымі кшталтамі.

Сонца грэла штораз мацней. Крышку змучыўшыся, яна паднялася з лежака і пайшла ў яго бок. Ён змярцвеў са страху і сораму. Уцячы ўжо не мог. Калі глянула на яго сваімі зялёнымі вачамі, пачуў дрыжыкі на целе. Яна зычліва ўсміхнулася і сказала:

— А не нудна табе так падглядаць? Маўчаў.

— Падабаюся табе?

— Ттак... — прастагнаў. — Вельмі.

— То чаму хаваешся ў карчах? Пойдзем на траву. Яна такая мяккая і так прыемна пахне, — гаворачы гэта, яна пацягнула яго ў кут агарода. У зацішным месцы яны аддаліся шалёнаму каханню. Не паспелі яшчэ дамовіцца на наступны дзень, калі з недалёкага дома прагучэў нецярплівы голас:

— Мізя! Мізя! Хадзі на малако! Кіс-кіс! Дзе ж прапала гэтая халерная кошка?

ГАННА МІХАЛОЎСКАЯ

# МА КАТ РАЗМЫ

**УСВЕДАМЛЕННЕ**

У светлы шлях, надзейны бераг
Ракі няспыннай прагна верыў.
А гэта быў духоўны нерат —
Жыццё аддадзена хімерам.

**НІГІЛІСТ**

Што сцягі,
што палошчуцца густа,
Калі ў кішэні пуста.

СІДАР МАКАЦЁР

З народнай творчасці

**СПОВЕДЗЬ ЦІХАНА**

Як Ціхон пайшоў да споведзі
(Гэта праўда чыста —
Ён жа веруючы хлопец,
То ж не камуніста!),
Бацюшка яго пытае:
„Чым ты грэшны, Ціша?"
А Ціхон аж плача
У царкоўным зацішшы:
„Я вам прызнаюся,
Што ўжо з другой разводкай
Моцна кахаюся! —
І ўздыхнуў Ціхон глыбока:
—Маркоты прычына:
Адна нарадзіла дачку,
А другая — сына!
Як жаніўся з тою першай,
Маці прадала карову.
Пры другой не мусіла —
Жывем на карту раварову.
Дзетак у мяне толькі двое —
Гэта ж не завеле!
Дачку ахрысціў у царкве,
А сына ў касцеле.
На дзетак няма прапорцы —
Вось ліквідуюць аборцы,
А дасць Бог яшчэ адно, —
Спавядаўся Ціша, —
То Абрамка (новы цесць)
У рабіна яго запіша!"
Ціхоне, наш Ціхоне,
Ты ж падумай шчэ заране:
А як будзе гэта хлопчык? —
Трэ ж зрабіць і абразанне...

НАДЗЕЯ ДУДЗІК,
Гарадок

## РАЗЕТКА НА „Т"

**Управа:** 1) ансамбль з трох музыкаў, 2) пачынаецца тварам, а канчаецца рогам, 3) распарадчык, верхавод, запраўіла сярод грузінаў, 4) форма правядзення спаборніцтва, 5) падарожнік, 6) над Чорным морам, 7) добра іграе ў жудасных, страшных сцэнах спектакля, 8) багаслоў.

**Улева:** 1) лінія на адлегласці 23°27' ад экватара, 2) на галаве мусульманіна, 3) „бацька" матэрыяльных або духоўных каштоўнасцей, 4) кавалачак ваты, які спыняе крывацёк, 5) шматслоўная рэпліка на прыўзнятым тоне, 6) вызначаны час, 7) гарызантальныя ўступы на схіле гары, 8) мае вялікую выбуховую сілу.

**ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 26 н-ра. Управа:** ландыш, літара, ляснік, логіка, люлька, Ларыса, лысіна, ляпсус.
**Улева:** ліпень, ланцуг, лётчык, люстра, лёгкія, лялька, лірыка, ласось.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае: Аляксандр Дабчынскі з Беластока.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.